



# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

14 красавіка 2017 года №15 (1146)




## Віншуем з Вялікаднем!

**Яйкі: купіць гатовыя ці пафарбаваць дома. Як пафарбаваць яйкі ў розныя колеры пры дапамозе прадуктаў**

старонка 3

**Машыне "Ніва", якая належыць маладзечанцу, 36 гадоў. Пра машыну і яе гаспадара:**

старонка 2

**Аўтар скульптуры маці ў Вілейцы: "Пяшчоты і ласкі ў вобразе маці будзе дастаткова".**

старонка 20-21

Калі вагі паказалі адзнаку 173 кілаграмы, Раман Русы з Маладзечна пачаў барацьбу з лішняй вагой.

# Маладзечанец пахудзеў на 65 кг

старонка 5

Фота забяспечанае Раманам РУСЫМ.




150 тысяч кіламетраў праехаў маладзечанец Станіслаў Аўгусціновіч на сваёй "Ніве" за 36 гадоў. Фота Наталлі ТУР.

# Машыне 36 гадоў, яе тройчы ўганялі і прапаноўвалі памяняць на карову

МАЛАДЗЕЧНА

**Гэта далёка не ўся біяграфія аўтамабіля "Ніва", які належыць маладзечанцу Станіславу Аўгусціновічу.**

Машына прарывалася праз снежныя заносы, пабыла ва ўгоне, яе спрабавалі перакупіць, спыніўшы проста на трасе, але гаспадар і нікому не прадае, і спісваць пакуль не збіраецца.

Гісторыя адной машыны ў маналогу яе адзінага гаспадара.

– Вось зусім нядаўна на дарозе мяне падразае вялізны блiскучы джып, з яго выходзіць кіроўца і просіць: "Баця, проста цяпер даю 2000 долараў і забіраю тваю "Ніву". Я яму: "Што ж табе сваёй крутой тачкі мала? А ён мне: "На паляванне, на рыбалку – няма лепшай рэчы, як твая машына". Не буду прадаваць. Мне 77 гадоў, пакуль сам магу ездзіць, пакуль сам магу рамантаваць яе, не прадам.

Машыну Станіслаў Аўгусціновіч купляў у 1981 годзе. На "Жыгулі" тады была чарга на 40 гадоў наперад, а на "Масквіч" і "Ніву" не.

– Я тады так разважаў: цешча жыве ў глухой вёсцы, дзе асфальтам нават не пахне, ад добрай дарогі ісці кіламетраў шэсць. Ну, купіў бы тады "Масквіч", ставі бы яго і шэсць кіламетраў ішоў пешшу. Таму і выбраў "Ніву". І ні разу пра гэта не пашкадаваў.

Ратавала машына свайго гаспадара неаднойчы.

– Выпадак, які запомніўся найбольш, здарыўся зімой на Вілейскім вадасховішчы. Паехалі мы з прыяцелем на зімовую рыбалку з начоўкай. А за ноч снегу намяло столькі, што ад "Нівы" маёй застаўся бачным толькі дах. Сябар назаўтра стаў лямантаваць: "Ай, ай, мы ж тут да вясны застанёмся. Што рабіць? Што рабіць?" Я яму: "Пятровіч, не галасі. Прарвёмся". Садзімся з ім у машыну, снег жа пухнаты, лёгкі, толькі ў бакі разлятаецца. Выехалі.

А ў ліхіх 90-х машыну ў Станіслава Аўгусціновіча ўгналі. Паўгода машына лічылася ва ўгоне.

– Як гэта адбылося. Машына стаяла ў гаражы ў двары дома. І вось ноччу зладзеі, калі не змаглі зламаць замкі, з даху гаража паздымалі шыфер, улезлі ўнутр і знутры адчынілі гараж. Акрамя машыны, забралі з гаража кучу іншага дабра. Па савецкіх грашах, суму шкоды ацанілі амаль у 400 рублёў. А потым адбылася грашовая рэформа, з'явіліся зайчыкі, і шкоду тую так ніхто і не вярнуў.

У той час Станіслаў Аўгусціновіч працаваў таксістам.

– Даводзілася шмат каго вазіць. Быў знаёмы "злодзей у законе". Ён так і сказаў: "Нашы не маглі скрасці. Але падкажу, хто".

Машыну праз паўгода знайшлі ў гаражы амаль на суседняй вуліцы. А да гэтага, як потым расказаў злодзей, а ім аказаўся сусед, машына месяц стаяла ў гаражы, потым тры месяцы іх хавалі ў Мядзеле.

Машыну, расказвае гаспадар, давялося аднаўляць амаль з нуля.

– З машыны павымалі новыя запчасткі, штоніштo замянілі на старое, з салона павыдзiралі ўсё, што маглі.

Станіслаў Аўгусціновіч расказвае, што хоць машына з кожным годам вымагае ўсё больш часу, каб прывесці яе ў належны стан, але тэхагляд праходзіць штогод з першага разу.

– Машына ні разу не была фарбаваная. На ёй няма ніводнага жучка, ні намёку на ржавенне. Я рэгулярна змазваю ўсе парогі адпрацаванай алівай. Машына не сказаць, што эканомная. Яна расходуе больш за 10 літраў на 100 кіламетраў, але ў багажнік восенню змяшчаецца ледзьве не ўвесь агарод: і некалькі мяхоў бульбы, і капуста, і буракі, і морква, і цыбуля.

Машына за 36 гадоў свайго жыцця зведала многае. Не раз білі вокны, каб скрасці яе з двара, але ў зладзеяў не атрымалася, бо Станіслаў Станіслававіч зрабіў адну прыладу, не ўключыўшы якую, машына не завядзецца. За машыну прапаноўвалі вялікія грошы і нават аддавалі за яе карову. Ні на што не пагаджаецца Станіслаў Аўгусціновіч.

– Памяняць не штука. Але што я куплю ўзамен? Іржавае карыта? Не, не хачу. Пакуль магу, пакуль умею, аранжавая "Ніва" будзе ездзіць па Маладзечне.

**Больш фота на сайце**




Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99

## "Нівы" барозняць прасторы Японіі, Канады і Аўстраліі

5 красавіка "Ніва" адзначыла сваё 40-годдзе. Першапачатковa машына задумвалася як "аўтамабіль падвышанай праходнасці на базе "Жыгулёў" для жыхароў вёскі".

Але назва "Ніва" паходзіць зусім не ад назвы ўрадлівых палёў, а ад першых літар імён дзяцей яе стваральнікаў: **Наталлі** і **Ірыны Прусавых** і **Вадзіма** і **Андрэя Салаўёвых.**

У пачатку 80-х гадоў, "Ніў" выпускалася да 100 000 у год.

"Ніва" – адзіны савецкі аўтамабіль, які прадаваўся ў Японіі. Але і цяпер, як сцвярджаюць уладальнікі гэтага аўтамабіля, "Ніву" можна ўбачыць на дарогах Ісландыі, Крыта, Аўстраліі, Грэнландыі.

У 2013 годзе з канвеера выйшаў двухмільённы аўтамабіль.

Але і цяпер "Нівы", якія сёння называюцца "Лада 4Х4", працягваюць выпускацца. І 40 гадоў свайго існавання, звычны ўсім выгляд аўтамабіля з круглымі фарамі і "броўкамі-паваротнікамі", так і не змяніў свайго аблічча.

### На "Ніве" ездзіў сам Сільвестр Сталоне

"Ніва" шмат здымалася ў кіно, прычым не толькі ў савецкім або расійскім.

Мяркуем, шмат хто помніць, што ў фільме "ДМБ" у канцы яго генералы менавіта на гэтай машыне прыехалі на паляванне. У фільме "Візіт да Мінатаўра" міліцыянер на "Ніве" даганяе злачынцу на ЗІЛе, з'яўляецца "Ніва" і ў культавым фільме 90-х "Любіць па-руску".

Знялася "Ніва" і ў двух серыях Джэймса Бонда – "Залатое вока" (1995 год) і "І цэлага свету мала" (1999 год), у фільме "Фарсаж 6", у новым "Рабакопе", у фільме з Сільвестрам Сталоне "Нястрымныя", у італьянскім бестселеры "Спрут 7".

"Ніва" здымалася ў эпізодах фільма з Джэкі Чанам "Хто я?" і "Гадзіна пік". Ездзіў на "Ніве" і Жан Рэно ў фільме "Карсіканец".

Здымалася "Ніва" ў французскіх, іспанскіх, італьянскіх, шведскіх, нідэрландскіх, англійскіх, егіпецкіх фільмах.

Зорка, што яшчэ сказаць.

# Яйкі: купіць гатовыя ці пафарбаваць дома

## Як пафарбаваць яйкі ў розныя колеры пры дапамозе прадуктаў

Карычневыя яйкі | Бардовыя яйкі | Аранжавыя яйкі | Зялёныя яйкі | Фіялетавыя яйкі | Жоўтыя яйкі

| Карычневыя яйкі | Бардовыя яйкі | Аранжавыя яйкі | Зялёныя яйкі | Фіялетавыя яйкі | Жоўтыя яйкі |
|---|---|---|---|---|---|
| Кава ў зярнятах | Бурак | Морква | Шпінат | Два качаны сіняй капусты | Молатая куркума |
| Перамалоць | Выціснуць | Выціснуць | Выціснуць | Нарэзаць | Узяць 3 сталовыя лыжкі |
| Варыць яйкі і каву ў 250 мл вады | Замачыць вараныя яйкі на 3 гадзіны | Зварыць яйкі ў соку | Зварыць яйкі ў соку | Дадаць вады і замачыць на 3 гадзіны | Зварыць яйкі ў растворы куркумы |

Фота domashnyaya-eda.ru

Дадаць 1 сталовую лыжку воцату ва ўсе фарбавальнікі.

МАЛАДЗЕЧНА

**Напярэдадні Вялікадня магазіны здзіўляюць разнастайнасцю святочнай прадукцыі: тут вам і рознага кшталту кулічы, і рознакаляровыя пернікі, і шакаладныя яйкі для самых маленькіх…**

Акрамя гэтага, некаторыя магазіны стараюцца яшчэ больш пазбавіць перадсвяточнага клопату жанчын на кухні, таму прапануюць пафарбаваныя яйкі.

У адным з магазінаў у Маладзечне можна купіць фарбаваныя яйкі паштучна, адно каштуе 50 капеек, расписанае яйка альбо з наклеенай плёнкай у два разы даражэйшае – за штуку трэба будзе аддаць 1 рубель 50 капеек. Ёсць пафарбаваныя яйкі і наборам – 4 рублі за дзясятак.

### Найбольш танна – фарбаваць шалупіннем

З аднаго боку, купіў – і адным клопатам менш, а з іншага – вы пазбаўляеце сябе той маленькай радасці і перадсвяточнага клопату, якія пад сілу нават дзіцяці.

Падлічым і выгаду такога фінансавага ўкладання. Для таго, каб пафарбаваць яйкі, купім дзясятак на рынку. На гэта пойдзе 1 рубель 80 капеек.

**Самым бюджэтным варыянтам будзе афарбоўка ў шалупінні цыбулі.**

Добра, калі яна загадзя назапашаная. У такім выпадку вы плаціце фактычна толькі за яйкі. У разлік мы не бяром затрачанай вады, газу і сіл.

Атрымліваецца, калі вы вырашылі набываць яйкі паштучна ў магазіне ў параўнанні з гэтым варыянтам, пераплата складзе 3 рублі 20 капеек.

### Калі фарбуеце харчовым фарбавальнікам

Самы танны фарбавальнік мы знайшлі па 90 капеек. Атрыманага саставу хопіць больш чым на дзясятак. Такі варыянт абыдзецца ў 2 рублі 70 капеек. Параўнаем з магазіннай цаной і атрымаем пераплату ў 2 рублі 30 капеек.

**Грошай вам хопіць на яшчэ адзін дзясятак.**

### Абгортваем у плёнку

Велікодная плёнка на яйкі каштуе ад 40 капеек за чатыры штукі. Каб пафарбаваць дзясятак, спатрэбіцца тры стужкі, прыйдзецца аддаць 1 рубель 20 капеек. Дадаём да яек кошт плёнкі, і выніковая сума – 3 рублі.

Калі абгортваць яйкі ў плёнку самастойна, вы эканоміце 12 рублёў.

Як бачна, фарбаваць яйкі на свята і больш прыемна, і больш выгадна самастойна, чым набываць у магазіне. Калі ж вы ўсё ж такі вырашылі набываць і тым самым пазбавіць сябе аднаго клопату, звярніце ўвагу на наборы. Добрага свята і няхай перадсвяточныя клопаты будуць толькі прыемнымі.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 6.04 | 13.04 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8808 | **1,8912** |
| Еўра | 2,0083 | **2,0080** |
| Злоты, 10 | 4,7273 | **4,7206** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3628 | **3,3306** |
| Грыўня, 100 | 6,9249 | **7,0423** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" 5.04 і 12.04** | | |
| Еўра | 1.9900/2.0150 | **1.9900/2.0150** |
| Долар ЗША | 1.8700/1.8930 | **1.8800/1.9000** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 5.04 | 12.04 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 15,89 | **16,85** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,85 | **6,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,35 | **3,25** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,18 | **5,50** |
| Селядзец, 1 кг | 3,95 | **13,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 10,00 | **1,45** |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | **1,45** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,80 | **1,80** |
| Алей "Фермер", 1 л | 2,20 | **2,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,75 | **0,75** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,75 | **0,75** |
| Часнок, 1 кг | 6,95 | **6,95** |
| Капуста (маладая), 1 кг | 2,35 | **1,95** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,59** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,40 | **1,69** |
| Лімоны, 1 кг | 3,75 | **3,75** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,70 | **2,69** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,00 | **2,75** |
| Гранаты, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,70 | **4,85** |
| Буракі, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Памідоры, 1 кг | 3,49 | **4,85** |
| Агуркі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Перац, 1 кг | 6,95 | **6,95** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Вінаград, 1 кг | 6,50 | **6,45** |
| Бананы, 1 кг | 2,59 | **2,49** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,35 | **1,45** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,35 | **3,35** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | **1,20** |
| Масла, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,45** |
| Сала, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | **6,50** |

## Асудзілі былога начальніка вілейскай ДАІ

**ВІЛЕЙКА**

Былому кіраўніку ДАІ прад'явілі абвінавачанне па некалькіх крымінальных артыкулах: бяздзейнасць службовай асобы, перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, учыненае з карыслівай ці іншай асабістай зацікаўленасці, службовая падробка, атрыманне хабару.

Фігуранта абвінавачвалі, што ў 2014-2015 гадах ён даваў указанні падначаленым не прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху знаёмых.

Следства ўстанавіла факты атрымання грошай, а таксама незаконнае прыцягненне да адказнасці жыхара Вілейкі. З крымінальнай справы вынікае, што былы начальнік браў хабар алівай і прадуктамі.

Суд прызнаў мужчыну вінаватым і прызначыў яму пакаранне ў выглядзе пяці гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Палову яго маёмасці канфіскуюць. Яму забаронена займацца дзейнасцю, звязанай з выкананнем функцый прадстаўніка ўлады, яго пазбавілі спецыяльнага звання "маёр міліцыі".

Прысуд вынеслі ў Мінаблсудзе.

**Паводле tut.by.**

## За начную прагулку голымі віляйчане заплацілі штраф па 69 рублёў

**ВІЛЕЙКА**

На двух маладзёнаў, якія голымі гулялі ноччу па Вілейцы, крымінальную справу не завodзілі.

Іх абвінавацілі ў дробным хуліганстве. Гэта адміністрацыйнае парушэнне. За яго кожны з хлопцаў павінны заплаціць штраф у тры базавыя велічыні.

Хлопцы прызналі віну і ўжо заплацілі штраф, расказала намеснік начальніка РАУС **Кацярына Млечка**.

Нагадаем, што ноччу 4 сакавіка міліцыя затрымала ў Вілейцы двух голых маладых людзей. Пачалося ўсё са спрэчкі на "слабо".

Двое нецвярозых з дзяўчатамі гулялі позна ўвечары па Вілейцы.

Хлопцы паспрачаліся, што змогуць прапрабегчы дагала і ў такім выглядзе прайсціся па горадзе.

Маладым людзям пагражала крымінальная адказнасць. Але падстаў для крымінальнай справы ў парушэнні не знайшлі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Адшукаў зніклага і на караблі ля Сіцыліі

## На Маладзечаншчыне штомесяц губляецца каля 19 чалавек

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Ці трэба чакаць тры дні, каб заявіць у міліцыю пра зніклага, чаму з дому ўцякаюць дзеці і як міліцыянеры выкарыстоўваюць верталёты і квадракоптары.**


Фота забяспечана Юрыем ПЯТРОВІЧАМ.

**Юры Пятровіч, начальнік аддзялення вышуковай работы аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС.**

### Што рабіць, калі знік ваш блізкі

**На старынцы некаторыя не звяртаюцца ў органы, пакуль не пройдзе тры дні пасля знікнення. Але гэта састарэлая інструкцыя – цяпер міліцыянеры шукаюць зніклых адразу.**

**1. Тэлефануйце ў 102, не чакаючы трох сутак.**

**2. Абзваніце блізкіх, сваякоў, знаёмых.**

**3. Агледзьце месцы, дзе можа быць чалавек: лецішча, гараж.**

**4. Патэлефануйце ў Бюро рэгістрацыі няшчасных выпадкаў:**

**(8017) 390-01-99.**

Пра гэта распавёў начальнік аддзялення вышуковай работы аддзела крымінальнага вышуку Маладзечанскага РАУС **Юры Пятровіч.**

За мінулы год у Маладзечанскі аддзел крымінальнага вышуку паступіла 229 заяў аб зніклых. Атрымоўваецца, што за месяц на Маладзечаншчыне знікала каля 19 чалавек. Прыкладна 3-4 чалавекі за год знайсці так і не ўдаецца.

### Як шукаюць зніклых

Калі ў дзяжурную часць прыходзіць паведамленне пра зніклага, аператыўная група выязджае да заяўніка. Запаўняюць пратакол, збіраюць патрэбныя звесткі – прыкметы, асаблівасці. Спецыялісты аглядаюць месца і часам знаходзяць падказкі, дзе працягваць пошук.

Зрэдку пры аглядзе становіцца зразумелым, што чалавек стаў ахвярай злачынства, і пазней знаходзяць яго труп. Часам знікаюць людзі, якія вырашылі звесці рахункі з жыццём. Яны пралічваюць свае дзеянні, хаваюцца там, дзе іх не здагадаешся знайсці. Такіх выпадкаў, калі зніклага знаходзяць мёртвым, 3-4 за год.

А бывае, што заяўнік і не рады, што зніклы адшукаўся. Аднойчы падала заяву маці з просьбай адшукаць дачку. Міліцыянеры атарапелі, калі яна сказала, што апошні раз бачыліся больш за 20 год таму. Жанчына ў пачатку 90-х паехала ў Расію. Здавалася, цяпер канцы і не знойдзеш. Але паліцыя адказала, што яе прыцягвалі да адміністрацыйнай адказнасці. Так і адшукалі. Жанчына жыла ў некалькіх сужыцікаў, не мела пэўнага месца жыхарства. Калі маці расказалі, што дачку адшукалі, удзячнай яна не была:

– Аказалася, маці вырашала свае жыллёвыя праблемы, – адзначае міліцыянер.



**Якраз ішла прыватызацыя, і трэба была даведка аб смерці дачкі, якая была прапісаная ў доме. А з жывой дачкой у гэтай справе чакалі большыя клопаты, чым з загінулай.**

### Шукаюць зніклых верталётам і квадракоптарам

Такая цынічнасць у некаторых справах заўсёды нечаканая, якім багатым не быў бы досвед. Але справа работнікаў аддзела – шукаць зніклых незалежна ад абставін. Каб атрымліваць лепшыя вынікі, работнікі выкарыстоўваюць сучасныя тэхналогіі.

– У жыцці яно, вядома, не так прыгожа, як у кіно, дзе за лічаныя хвіліны знаходзяць чалавека па камерах, сігнале мабільнага тэлефона, – распавядае начальнік аддзялення. – Але за апошнія гады тэхналогіі прасунуліся. Раней трэба было ісці ў пашпартны стол, пераглядаць картатэку... Цяпер жа мы маем доступ да баз. Хаця многія з іх зміяшчаюць дадзеныя не раней за 2000 год, але і гэта значны пласт. Пошук праз мабільны тэлефон прадугледжвае пэўную працэдуру, але і гэта мы выкарыстоўваем. Часам дапамагае аналіз сацыяльных сетак зніклага.

Гэтым маладзечанскі вышук не абмяжоўваецца. Тры гады таму разам з выратавальнікамі пасправалі адшукаць зніклую бабулю на верталёце. Да гэтага тры дні прачэсвалі лес каля Лазаўца, дзе, як меркавалася, яна павінна была быць. Бабулю не знайшлі, а гушчар быў такі, што не прайсці. А на верталёце знайшлі! Тая бабуля цяпер штогод віншуе з Днём міліцыі міліцыянера, які першым яе заўважыў.

Супрацоўнікі РАУС пачалі выпрабоўваць у пошуках і квадракоптары – лятальныя апараты без пасажыраў. Хаця ёсць чаканні, што яны дапамогуць прачасаць месцы, дзе цяжка прайсці людзям, пакуль на Маладзечаншчыне яны не дапамаглі адшукаць зніклых.

### Калі дзеці ўцякаюць: сядзеў і глядзеў, як гуляюць іншыя

Сярод заяў аб зніклых ёсць тыя, што патрабуюць неадкладнага рэагавання – калі знікаюць дзеці або людзі ў нямоглым стане.

Юры Пятровіч прыгадвае выпадак, калі знікла дзіця з адной з вёсак. Міліцыянеры пачалі прачэсваць мясцовасць, а дзіця, пачуўшы, што яго шукаюць, схавалася яшчэ лепш. Праз нейкі час яго ўсё ж знайшлі. Аднойчы зніклае дзіця знайшлі на марозе – яно спала на кардонцы на вуліцы. Летась маленькая дзяўчынка пасярод ночы амаль голая ішла па вуліцы – бацькі пасварыліся і не даглядзелі яе.

З досведу міліцыянера, дзеці звычайна сыходзяць з дому, калі ім нечага не хапае.

– Цяпер для шараговай сям'і норма, калі ёсць мабільныя тэлефоны, камп'ютар ці ноўтбук, цукеркі на стале, прадукты ў халадзільніку. А калі ні прадуктаў, ні нават халадзільніка няма, вядома, дзіця будзе шукаць гэтыя даброты.

Адзін хлопчык уцякаў з дому ў кругласутачны камп'ютарны клуб. Грошай ён не меў, таму прасіў сядзеў побач і глядзеў, як гуляюць іншыя.

– У гэтым плане ёсць плюс, калі клубы працуюць кругласутачна: ёсць шанец, што мы там знойдзем зніклага.

### Знайшоў зніклага на караблі ля Сіцыліі

Супрацоўнікі вышуку шукаюць не толькі тых, аб чыім знікненні заяўляюць. Яны вышукваюць таксама людзей, абвешчаных у вышук судом ці судовым выканаўцам. Значная доля сярод іх – неплацельшчыкі аліментаў, прычым, і мужчыны, і жанчыны.

Большая частка тых, хто праходзіць праз вышук – людзі, чый лад жыцця не выключае знікнення. Здараецца, што жонка ці муж з'язджаюць пасля спрэчкі, забіраюць дзяцей. Сярод падлеткаў найчасцей знікаюць навучэнцы, якія не хочуць вучыцца, а дзеці больш за ўсё губляюцца на масавых мерапрыемствах. Губляюцца і сталыя людзі, у тым ліку з праблемамі з памяццю. І хаця сваякоў папярэджваюць, што пры недастатковым доглядзе гэта можа закончыцца трагедыяй, нярэдка яны губляюцца неадназаова.

У пачатку сваёй практыкі Юрыю Пятровічу даводзілася адшукваць зніклага з тымі яшчэ прыгодамі. Былая жонка хацела атрымаць ад мужчыны дазвол на выезд за мяжу для іх дзіцяці. Апошняе, што пра яго было вядома, што працаваў мараком у рыбалоўным калгасе. Міліцыянер праз інтэрнэт адшукаў, што той калгас месціцца ў адной з Прыбалтыйскіх краін. Пачаў абзваньваць калгасы і пытацца пра зніклага. Усё было безвынікова, пакуль не звязаўся з жанчынай, якая падказала адзін з нумароў. Па тым нумары паведамілі, што так, такі марак сапраўды працуе, цяпер на судне – і далі нумар капітана. Супрацоўнік міліцыі датэлефанаваўся капітану судна, якое ў той час было каля вострава Сіцылія, і знайшоў зніклага!

### "Знайдзіце маю аднакласніцу Галю"

Бывае, што да крымінальнага вышуку звяртаюцца, як да перадачы "Жди меня". Аднойчы падала заяву бабуля прыкладна 1938 года нараджэння, прасіла знайсці яе аднакласніцу Галю.

Бабуля прыклала фотаздымак, дзе абедзвюм па 18 год, і падпісала: справа я, а злева – Галя. Знайдзіце!

– І пачалі шукаць. Звестак з 50-х гадоў вельмі мала, але ўсё ж атрымалася адшукаць сястру Галі. На жаль, сама жанчына на той момант ужо некалькі год, як памерла. Але заяўніца сазванілася з сястрой сваёй аднакласніцы і была вельмі задаволеная.

У апошнія гады ў крымінальнага вышуку з'явіліся памагатыя. Актыўна працуе пошукава-выратавальны атрад "Анёл". Часам дзякуючы неабыякавым людзям лягчэй адшукаць зніклых.

– У нас вельмі нервовая работа, шмат эмоцый і крыкаў, дзяжурствы... – дзеліцца міліцыянер. – І заўсёды вельмі прыемна, калі сваякі чалавека, якога мы адшукалі, дзякуюць нам – значыць, мы працуем з карысцю.



**Зоя ХРУЦКАЯ**
ripenie@yandex.by

ТЭМА НУМАРА







Раман Русы сёння імкнецца да вагі ў 105 кілаграмаў, але скінутых 65 хапіла для таго, каб стаць героем передачы "Пусть говорят" з Андрэем Малахавым.

# Маладзечанец які пахудзеў на 65 кг: "Дазволіў лішняе сабе сёння – прайграў назаўжды"

МАЛАДЗЕЧНА

**– Калі пахудзеў, заўважыў, што ў мяне вялікія вушы, якія раней хаваліся за шчакамі, – жартуе Раман Русы, – у астатнім сваёй сённяшняй вагой я амаль задаволены. Хачу важыць кілаграмаў 100.**

За 16 месяцаў 23-гадовы Раман пахудзеў на 65 кілаграмаў.

Сустрэліся мы з хлопцам у кавярні, на стале – кубак гарбаты.

– А раней я мог прыйсці ў піцэрыю, замовіць вялікую піцу і з'есці яе адзін. Потым запіваў усе гэта літрам колы і клаўся адпачываць.

Такі лад жыцця прывёў Рамана да адзнакі на вагах 173 кілаграмы. І гэта ў 23 гады.

– Я вельмі любіў сябе, – адказаў Раман на пытанне, як ён набраў такую вялікую вагу. – Вучыўся ў лінгвістычным універсітэце, пасля вучобы заходзіў у магазін, браў нейкі фаст-фуд, колу, абедаў і клаўся адпачываць.

Пры гэтым, Раман расказвае, што ў сваёй вазе не адчуваў сябе неяк няёмка.

– Я сабе падабаўся такім, якім быў. Абсалютна не парыўся на гэты конт.

Аднойчы Раману ў інтэрнэце трапілася інфармацыя пра тое, што яго вага – гэта прыкмета захворвання.

– Я амаль змірыўся з тым, што я таўсцею праз тое, што ў мяне цукровы дыябет. Аднак усё ж раптам вырашыўся схадзіць да эндакрынолага, здаў усе аналізы.

І вось калі аналізы паказалі, што з крывёй і цукрам у Рамана ўсё ў парадку, у гэты момант у яго, як кажа сам хлопец, нешта шчоўкнула.

– Я чалавек веруючы, і калі зразумеў, што Бог дае мне шанец пачаць іншае жыццё, я вырашыў спыніцца.

Таму на развітанне са звыклым ладам жыцця Раман выдзеліў сабе два тыдні.

– За гэтыя два тыдні я абышоў усе свае любімыя кавярні, замаўляў самую шкодную, каларыйную, але любімую мной ежу. Памятаю, што восьмага лістапада 2015 года было апошняе застолле, а дзявятага я прачнуўся, зварыў грэчку і пачаў новае жыццё.

І за 16 месяцаў ні разу не адступіўся ад сваёй мэты.

У размове Раман сказаў, што калі ты дазволіў сабе лішняе – ты прайграў назаўжды.

**А лішнім у рацыёне Рамана аказалася ўсё смажанае, мучное, салодкае, фаст-фуд, газіраваныя напоі.**

– Калі раптам хацелася салодзенькага, дазваляў сабе зефір ці лыжку мёду. Але калі дазваляў гэта сабе, ведаў, што пасля трэба будзе гадзіну ездзіць на ровары.

Вага скідвалася дастаткова хутка. За дзевяць месяцаў Раман пахудзеў на 53 кілаграмы.

Пасля гэтага дадаў у свой расклад заняткі спортам.

– Не зусім пасля гэтага, я і раней займаўся тайскім боксам, граў у баскетбол. Калі пахудзеў, збылася мая мара: набыў сабе ровар. Але яшчэ дадаў да свайго раскладу наведванне трэнажорнай залы тры разы на тыдзень.

А калі сябры заўважылі, як схуднеў Раман, калі касцюмы даводзілася ўшываць штомесяц, Раман адаслаў сваю гісторыю на Першы канал, у передачу да **Андрэя Малахава** "Пусть говорят".

– Я абсалютна не хацеў хваліцца тым, які я маладзец. Я хацеў, каб мой прыклад натхніў іншых людзей.

**Здымкі ў Маскве адбыліся 29 сакавіка.**

– Я, калі мне патэлефанаваў рэдактар Першага канала, адчуў сябе такім важным чалавекам. Мяне сустрэла таксі каля дома, адвезла ў аэрапорт, там, у Маскве, ужо чакала таксі, якое адвезла ў гасцініцу, потым на здымкі. Не, Першы канал за ўдзел у перадачы не заплаціў, але тое, як яны сустрэлі, таксама многага каштуе.

Малахаў Раману спадабаўся.

– Ён мега-прафесіянал. Праўда. Выйшаў на здымачную пляцоўку і ўжо ведаў гісторыю кожнага героя. Заставалася толькі адказваць на пытанні.

Сёння Раман працуе выкладчыкам французскай мовы ў Маладзечанскім дзяржаўным каледжы, таксама працуе выхавальнікам у інтэрнаце №2 для дзяцей з парушэннямі зроку. Акрамя таго, Раман спявае.

– Музыкай я захапіўся ў 16 гадоў. Прыйшоў да маці і сказаў: хачу спяваць. Знайшоў педагога, ёй стала **Маргарыта Васілевіч**, і пачаў займацца. Пераважна я выконваю хрысціянскія песні, і мне падабаецца. Гэта тое, чым я хачу займацца, тое, чаму хачу вучыцца.

Раман прызнаецца, што яму вельмі падабаецца быць занятым.

– Калі ў мяне на тыдні ёсць адзін вольны дзень, я адчуваю, як таўсцею, – жартуе Раман. – Я імкнуся да таго, каб быць занятым. Таму і працую на дзвюх работах.

Раман упэўнены, што змяніўся не толькі знешне.

– Не і яшчэ раз не. Мне стала цікава ўсё на свеце, я хачу быць у цэнтры жыцця, а не ляжаць на канапе. Я стаў бачыць і заўважаць тое, што раней мяне не цікавіла. Нават на шашлыках я цяпер бачу сэнс не ў тым, каб паесці мяса на прыродзе, а каб паганяць мяч, папарыцца ў лазні.

**Лазня – гэта таксама новае захапленне Рамана. І ў бліжэйшых планах хлопца прыняць удзел у спартыўным паранні.**

– Я люблю і ўмею гатаваць на грылі. Але, калі выдаюцца такія дні з сябрамі, я ім нагатую, а сам іду парыцца ў лазню. Сябры частуюцца, я паруся. Абсалютна не напружваючыся, я магу правесці ў парылцы гадзіны чатыры. Абавязкова на наступны год прыму ўдзел у чэмпіянаце па паранні.

Раман цяпер дапамагае двум сваім сябрам таксама пахудзець.

– Вучні – гэта значна большая адказнасць, чым калі худзееш сам.

А яшчэ Раман за ўсё тое, што з ім адбываецца, дзякуе сваёй сям'і.

– Без іх падтрымкі ў мяне б нічога не атрымалася. Я ведаю, што зараз прыйду дадому, а мая бабуля **Вера Міхайлаўна** ўжо прыгатавала маю дыетычную грэчку з садавінай.

**Наталля ТУР.**

## Пытанне знатакам задае Юры Лугоўскі з Маладзечна

МАЛАДЗЕЧНА

Той, хто сочыць за баталіямі ў беларускім клубе "Што? Дзе? Калі", напэўна, чуў, як вядучы гаворыць гэту фразу: "Ваўчок выбраў Маладзечна".

Пытанні маладзечанца **Юрыя Лугоўскага** ужо двойчы траплялі на стол у элітарным клубе.

Аднак зарабіць грошы сваім уласным розумам Юрыю пакуль не давялося. Знатакі знаходзяць адказы на пытанні, якія задае ім тэлегледач.

– Пытанні пачаў пісаць пару гадоў таму, і мінулай восенню мне патэлефанаваў адзін з рэдактараў і сказаў, што маё пытанне адабралі на восеньскую серыю гульняў. Тады гуляла каманда **Андрэя Супрановіча**, пытанне было лёгкае і знатакі яго адгадалі.

Тая гульня выйшла ў эфір у снежні.

Пасля гэтага Юры пісаў яшчэ пытанні, але не толькі ў беларускі клуб. Пытанні накіроўваў у тым ліку і на гульні ў Расію, Арменію.

І вось 31 сакавіка яшчэ адно пытанне Юрыя нечакана для яго самога прагучала ў эфіры. Каманда **Фёдара Шведава** дала правільны адказ.

– Вельмі шкада, што і на гэта пытанне адказалі. Добрае пытанне было.

Юры расказвае, што сам вельмі любіць чытаць, так і нараджаюцца пытанні.

– Я чытаю ўсё запар. Бывае, знойдзеш штонебудзь цікавае, думаеш а чаму б не задаць пытанне!

А пакуль Юры прыдумвае новыя пытанні, паспрабуйце адказаць на тыя, што паддаліся знатакам.

1. Навукоўцы з Каліфарнійскага ўніверсітэта выявілі, што некаторыя віды суслікаў перыядычна жуюць скуру, якую скідваюць змеі. Увага, пытанне: для чаго, на думку даследчыкаў, звяркі гэта робяць?
2. У дактароў-эпідэміёлагаў існуе адмысловая адзінка вымярэння – вожыка-гадзіна. Карыстаюцца ёю наступным чынам: вожыка выпускаюць у пэўны раён лесу, сочаць за ім, а праз гадзіну ловяць назад. Пытанне: а што вымяраюць такім чынам?

**Наталля ТУР.**

**Адказы:** 1.Суслікі жуюць скуру, а потым вылізваюць сябе, каб пахнуць змяёй. Гэта, на думку навукоўцаў, скарачае напады на суслікаў драпежнікаў. 2. Вожык збірае на свае іголкі ўсіх кляшчоў. Так дактары могуць пралічыць, наколькі высокая верагоднасць укусу кляшчамі чалавека на гэтым участку лесу.



Фота са старонкі Юрыя ЛУГОЎСКАГА "Укантакце".

Маладзечанец Юры Лугоўскі пытанне знатакам шукае не толькі ў кнігах, але і спартыўнай зале.

## Беларускамоўны банер будзе заклікаць да паасобнага збору смецця

ВІЛЕЙКА

"Хопіць смецце памнажаць! Лепш яго рассартаваць!"

Заклікаць гараджан такім чынам да паасобнага збору адходаў прапануе арганізацыя "Экапартнёрства" ў рамках праекта "Патрэба ў эфектыўным кіраванні жыллёва-камунальнай гаспадаркай".

Банер з лозунгам размесцяць на гарадскіх білбордах, расказаў галоўны архітэктар вілейскага райвыканкама **Дзмітры Гарланаў**.

– Пра аўтарства самога слогана я так і не даведалася, – кажа куратарка праекта намесніца дырэктара вілейскага Палаца культуры **Вольга Шляпо**. – У ЖКГ кажуць, што гэта калектыўная творчасць іх супрацоўнікаў.

У ЖКГ слоган склалі па-руску. А супрацоўнікі "Экапартнёрства" пераклалі заклік на беларускую мову.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Такіх гітар, як у маладзечанца, ва ўсім свеце ўсяго 27

МАЛАДЗЕЧНА

**І больш за тое, гаспадар гітары Андрэй Капцюг не моліцца на яе і не хавае ў сейфе, а вельмі актыўна выкарыстоўвае ў сваёй творчасці.**





Андрэй Капцюг на новай гітары іграе па пяць-шэсць гадзін у дзень.

Сёння Андрэй – гітарыст гурта "Kanflikt", а таксама праекта "Сёмая перадача".

І гітара яго японскай фірмы Ibanez ужо як два месяцы пастаянная спадарожніца.

А ідэя набыць гэту гітару ўзнікла вось як:

– Я музыкай займаюся даўно, – распавядае Андрэй Капцюг, – але да гэтай гітары ў мяне была шасціструнная. Неяк я рабіў кавер на вядомага гітарыста Энджэла Вівальдзі. І вось, калі ён у сваім творы іграў на сёмай струне, у мяне ў гэтым моманце надыходзіў поўны ступар. Таму і вырашыў тады купляць сяміструнную гітару.

Пры выбары інструмента ў Андрэя было патрабаванне, каб у яго былі 24 лады і каб сам корпус быў выкананы з вольхі.

– Таму што вольха забяспечвае гук звонкі, збалансаваны. Стаў шукаць у інтэрнэце, чытаць водгукі. Шукаў фірмы, якія займаюцца перавозкай музычных інструментаў з Японіі і ЗША. Так, паступова, і выйшаў на гэту мадэль. Дарэчы, гітару цалкам збіралі ўручную, да апошняга вінціка. Мне вельмі падабаецца, як яна гучыць, якая атака ў гука, які сустэйн.

Не музыкантам, напэўна, варта патлумачыць, што такое атака і сустэйн.

Калі казаць прымітыўна, то гэта асаблівасці гукаў. Атака – таго, як гук узнікае ў музычным інструменце, сустэйн – працягласць гучання ноты.

Пасля ў размове Андрэй будзе выкарыстоўваць іншыя незразумелыя словы.

Напрыклад, калі мы абмяркоўвалі з ім тое, ці могуць гітарысты паўтарыць подзвіг Паганіні і сыграць на адной струне, Андрэй адказаў:

– Гэта гледзячы што. Свіп, а гэта раскладзенае арпеджыа, сыграць наўрад ці атрымаецца.

Гледзячы на непаразуменне ў маіх вачах, Андрэй дастае гітару і пачынае перабіраць струны зверху ўніз. Гэты перабор – і ёсць арпеджыа.

**Гітара Андрэя каштуе 2000 долараў.**

– На яе скідваліся хлопцы са студыі. Я іграю – ім рэклама. Гэта нармальна.

– А раптам гітара сапсуецца, што тады?

– Трагедыяй будзе, калі ў яе пераломіцца грыф. Усё астатняе можна паправіць.

Андрэй прызнаецца, што гітары не шкадуе, пылінкі з яе не здзімае.

– Іграю шмат, у дзень, калі ў мяне выхадны, магу іграць без перапынку гадзін 5-6. Часцей за ўсё іграю ноччу. Спрабую пісаць музыку.

Аднак музычную школу Андрэй Капцюг скончыў па класе фартэпіяна.

– У першым класе папрасіў маці адвесці мяне ў музычную школу, спадабалася настаўніца па фартэпіяна, таму і пайшоў іграць на гэтым інструменце. А ўжо пасля дзявятага класа, калі трэба было выбіраць, куды паступаць, я выбраў музычны каледж, пайшоў на спецыяльнасць "класічная гітара".

Выхоўваў музычны густ Андрэй на гуртах Metallica, Slayer, Kreator, Lamb of God.

А вось песень пад гітару ў двары Андрэй не іграў ніколі.

– Ужо пазней, калі вучыўся ў каледжы, хадзілі да дзяўчат з гітарай у інтэрнат.

Ужо год Андрэй сола-гітарыст у гурце "Kanflikt". Гурт дастаткова вядомы ў горадзе, яго запрашаюць на розныя фестывалі. І нават круцяць па радыё.

– Насамрэч, на радыё прабіцца не цяжка. Знайдзі фармат, які табе падыходзіць, і прапануй сябе.

Іншая справа, як зарабіць грошы на творчасць.

– Таму мы і стварылі калектыў "Сёмая перадача". Там творчасці няма. Кавер – бэнд, мы проста пераігрываем тую музыку, якая зрабіла вядомымі гурты "Звяры", "Акіян Эльзы", "Зямляне". Аднак калі гэта запатрабавана на вяселлях, будзем выконваць.

А вось эталонамі гітарыстаў для Андрэя Капцюга з'яўляюцца Джон Пятручы, Джэф Луміс, Энджэл Вівальдзі.

– Раней увогуле здавалася, што яны богі гітары. А цяпер разумею, што калі спрабаваць, займацца, практыкавацца, то няма нічога немагчымага.

Вось Андрэй і спрабуе. Акрамя ўдзелу ў гуртах, пачынае займацца сольнай кар'ерай, запісвае сваю музыку. Цяпер рыхтуецца да джэму месяца на англійскім гітарным сайце JamTrackCentral.

– Джэм – гэта інструментальная імправізацыя на зададзеную тэму. Пад дадзены трэк трэба прыдумаць сваё сола, запісаць на відэа, як ты яго іграеш, без мантажу гуку, загрузіць гэта ўсё на "Ютуб" і адправіць спасылку журы, дзе ў канцы месяца выберуць лепшых.



Гітара Андрэя Капцюга.

І канешне ж, як творчы чалавек іграе па начах.

– Мае бацькі, калі я першага верасня з'ехаў на вучобу, прызнаваліся, што не маглі заснуць ад таго, што ў доме стала надта ціха.

**Фота аўтара.**




Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**Ніну Васільеўну СОКАЛ з в. Гарадок Маладзечанскага раёна**



**З юбілеем!**

*Бабулечка, ты наша дорогая,*
*Ты 90 лет уж прожила.*
*И с этим самым важным*
*юбилеем*
*Спешим поздравить мы тебя!*

*И пусть немного постарели*
*твои руки,*
*Но молода всегда твоя душа,*
*Хотим, чтобы любая стужа,*
*вьюги –*
*Все стороною обошли тебя.*

*Конечно же, хорошая,*
*тебе здоровья,*
*Чтоб много лет ещё*
*ты прожила,*
*Чтобы людей встречала*
*только добрых,*
*Чтоб правнуков детей*
*понянчить ты смогла!*

**Твой сын Леанід і ўся яго сям'я.**

Прадам **ДАЧУ** паблізу Вілейкі, Плікавічы. Участак 10 сотак. 4 км да вадасховішча.



Т. (8-029) **651 20 36**.



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Атос-Хундай, 1998 г.в., аб'ём 1 л, добры стан, нядорага. Т. МТС (8-033) 3516838.*
- Масквіч і ДЭУ. Пральная машына "Мара". Т. (8-029) 2768546.
- Мерсэдэс 123, 1982 г.в., 3,9Д, 1600 руб, торг да месца. Т. (8-029) 6028263.
- Опель-Вектра В, 1997 г.в., 2,0 ТД, белы. Т. (8-029) 5678090.*
- Сузукі-Свіфт, тэхагляд сакавік 2017г. Т. МТС (8-033) 3786807.
- УАЗ-3303, бартавы. Т. (8-029) 3029224.*
- ФВ-Гольф, 1986 г.в., 1,8 бензін, чырвоны, 3-дзверны. Т. (8-02905990962, (8-029) 1543864.
- Фіят-Брава, 1997 г.в., аб'ём 1,6, бензін, добры стан, 9 гадоў у адных руках, своечасовае тэхнічнае абслугоўванне, рухавік ідэальны, кузаў цэлы. Т. Вэлком (8-029) 9187735.
- Форд-Сіера, 1992 г.в, дызель, па запчастках. Т. (8-029) 7736525.*
- Форд-Эскорт, 1992 г, 1,6 бензін, на запчасткі, на хаду. Т. (8-033) 3235320.*
- ФВ-Пасат В2, хэтчбэк, 1985 г.в., 1,6 бензін, чырвоны. Маладзечна. Т. (8-029) 1927586.
- **АЎТАШКЛО. ПРАДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- Дыск літы R15 арыгінальны, Мерсэдэс, 4 шт., 300 руб. Т. Вэлком (8-029) 6482157.



- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

- **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 8853281.*
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*
- Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*
- Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н Зеніт, 1 паверх. Т. (8-033) 6333225.
- 1-пакаёвая кватэра ў Турэц-Баярах, 14 км ад Маладзечна, плошча 36/16,2/8,2 кв.м, шклопакеты, жалезныя дзверы, добры рамонт, побач электрычка. Магчымы абмен на аўто.Т. МТС (8-029) 8969901.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 5081223.*
- 2-пакаёвая кватэра ў Любані, еўрарамонт. Т. (8-029) 8460439.*
- **3-ПАКАЁВАЯ КВАТЭРА Ў А.Г. ЗАЛЕССЕ. ТЭРМІНОВА! НЯДОРАГА. Т. (8-029) 6125469.***
- 3-пакаёвая кватэра ў а.г. Любань Вілейскага раёна, 63 кв. м, 1 паверх 3-павярховага дома, кухня 9 кв. м. Добраўпарадкаваная (шклопакеты, металічныя дзверы, навясная столь, раздзельны санвузел, балкон). Ёсць падвал, гараж, 2 соткі агарода, насупраць дома – возера, 100 км ад Мінска (нарачанскі напрамак), 11 км ад Вілейскага вадасховішча. Т, (8-033) 6362026.
- 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, 5 паверх, плошча 64,3/36,4/8,5. Тэрмінова! Т. (8-029)1973497, (8-029)1841007.*
- Будынак былой пачатковай школы разам з зямлёй 1,8 га у в. Малінавая Смаргонскага раёна. Цана дагаворная. Т. (8-029) 5665809.*
- Гараж у ГБК №6 у Вілейцы. Т. (8-029) 2716012.*
- Гараж у ГК №1 г. Маладзечна. Т. (8-029) 6262756.*
- Гараж у каапeратыве "Маладзёжны" № 29 г. Маладзечна. Т. МТС (8-033) 3516838.*
- Дача з цокальным паверхам у дачным кааператыве "Зялёныя ўзгоркі", 6 сотак, 17 км ад Маладзечна, побач электрычка, лес. Ёсць водаправод. Т. (8-029) 3925149.
- Дача ў садоўніцкім таварыстве "Дружба-Прынта", 15 км ад Вілейкі. Т. (8-029) 8597408.*
- Дача-домік, 2 паверхі, лазня, у в. Прынта Вілейскага раёна, побач лес, грыбы, ягады, р. Нарачанка. Т. (8-029) 2521686.*
- Дом драўляны, жылы, у цэнтры Маладзечна, 65 кв.м, з мэбляй, газ, водаправод, гараж. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом 2-павярховы, 184 кв. м. Т. (8-029) 9628737, (8-029) 9061161.
- Дом 43/83 кв.м. у в. Караліеўцы Вілейскага раёна Мінскай вобласці, участак 20 сотак, хлеў, лазня, два калодзежы, агарод, альтанка. Побач лес, рачка, аўтобусны прыпынак, магазін. Т. (8-029) 1166139.*
- Дом жылы ў Вілейцы, 100 кв. м, з мэбляй, маёмасць, прыродны газ, ацяпленне, каналізацыя, вада, сад-агарод, цяпліца, альтанка, цана дагаворная. Т. (8-029) 6499848, (8-044) 7966466.*



- Дом у в. Гарадзілавічы Вілейскага раёна, 5 км ад трасы Мінск-Мядзел. Т. (8-029) 7687670.
- Дом у в. Каловічы (газ). Т. (8-029) 1825368, (8-029) 7584436.*
- Дом у в. Несцеркі Вілейскага раёна. Т. (8-029) 6571997.
- Дом у Вілейцы па вул. Мірнай,15. Т. (8-029) 2574576.*
- Дом у Чысці, газавае ацяпленне, выгоды, 120 тысяч руб., торг. Т. (8-029) 7069945.*
- Дом, 6 км ад Маладзечна. Т. (8-029) 2754603, (8-0176) 502313.*
- Кватэра ў прыгарадзе Маладзечна (2 км). Ходзіць гарадскі аўтобус. Добры рамонт, усе выгоды, зона адпачынку. Т. (8-029) 2754603, (8-0176) 502313.*
- Нежылы будынак плошчай 300 кв.м. Т. (8-029) 6195512.*

### МЯНЯЮ

- 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы на 3-пакаёвую з маёй даплатай. Т. (8-029) 5649078.
- Дом недабудаваны, участак 15 сотак, жылую часовую пабудову на кватэру. Магчымы продаж. Т. (8-029) 5605781.*

### ЗДАМ

- 2-пакаёвую кватэру ў 6-м мікрараёне ў Маладзечне на доўгі тэрмін. Т. (8-033) 3135652.
- 2 ралеты ў Ашмянах на тэрыторыі рынку 10 кв.м па 60 руб. і 12 кв. м па 72 рублі. Т. (8-029) 6631595.*
- Пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*
- Пакой у Маладзечне па вул. Віленскай. Т. (8-029) 5019550.*
- У арэнду альбо прадам працуючы аўтамагазін у цэнтры Маладзечна. Т. (8-029) 5551515.*
- У арэнду памяшканне 32 кв.м у цэнтры г. Маладзечна. Т. (8-029) 5551515.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071 Васкабовіч А.А.*
- Музыкі на вяселле, юбілей. Шоу-праграма. Тамада. Вакал. Баян. Т. (8-033) 3523507, (8-029) 3242015. Куліковіч Т.І.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

- Здам у арэнду аўтобус ПАЗ 25 + 15 месцаў. Т. (8-029) 6689034.

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

# Жыве ў Піцеры і малюе Вілейшчыну:

## выстава мастачкі Наталлі Шыкавец адкрылася ў Вілейцы



Мастачка Наталля Шыкавец на адкрыцці ўласнай выставы.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

ВІЛЕЙКА

**На адкрыцці ўласнай выставы ў зале Нікадзіма Сілівановіча вілейскага музея мастачка Наталля Шыкавец распавяла, як не згубіць свае мары ў мегаполісе і чаму, жывучы ў Санкт-Пецярбургу, яна малюе краявіды Вілейшчыны.**

Мастачка жыве ў паўночнай сталіцы Расіі ад 2010 года. Таму ідучы на яе выставу, я чакала ўбачыць па меншай меры хвалі Нявы ля Палацавай плошчы.

Але... Вось стол у дзядулевай хаце на Вілейшчыне. Вось такія звыклыя для вясковых кветнікаў белыя лілеі. А на наступнай карціне – неабмалочаны сноп каласоў.

– У маёй творчасці выключна беларускія матывы, – падзялілася Наталля Шыкавец. – Чаму? Адказ просты: усё ў нашым жыцці пачынаецца з дзяцінства.

### А пачыналася ўсё з малюнкаў на шпалерах

Наталля нарадзілася і вырасла на Вілейшчыне. Тут вучылася ў куранецкай школе. Думаю, кожны перакanaўся, што школа ганарыцца сваёй таленавітай выпускніцай. Дырэктар школы **Галіна Жынгілевіч**, настаўніцы Наталлі **Марына Цыркулеўская, Алена Балвака** і іх сённяшнія вучні прыехалі на выставу на школьным аўтобусе.



Наталля са сваёй першай настаўніцай Аленай Балвакай.

Настаўніца беларускай мовы Марына Цыркулеўская адзначыла, што Наталлі дадзены не толькі талент мастака. У школе дзяўчынка выдатна праяўляла сябе і на ўроках літаратуры.

Цяпер у бацькоўскім доме на Вілейшчыне – цэлая карцінная галерэя. А маляваць, па словах мамы Наталлі, **Валянціны Шыкавец**, дачка любіла з дзяцінства. Спачатку спрабавала здольнасці на шпалерах, потым былі алоўкі і альбом.

Усвядомленае жаданне прафесійна займацца мастацтвам прыйшло даволі позна. Да паступлення заставаўся адзін год. Тады мама разам з Наталляй прыйшлі ў студыю да мастака і педагога **Эдуарда Мацюшонка.**

– Год – гэта вельмі мала для таго, каб падрыхтавацца да паступлення ў мастацкую ВНУ, – расказаў на выставе Эдуард Уладзіміравіч.

Аднак прыход у студыю, па словах Наталлі, змяніў яе жыццё. Яна бачыла, што настаўнік паверыў у яе.

### Маляваць ездзіла ў Вілейку з Куранца

У Наталлі было такое жаданне і такі талент, прыгадаў Эдуард Мацюшонак, што года ёй аказалася дастаткова. Гэта толькі таму, пераканаы педагог, што дзяўчына не магла жыць без мастацтва. Наталля хутка навучылася ўсяму. Прытым, што дзяўчына жыла нават не ў Вілейцы, а ездзіла на заняткі з Куранца.

Дзякуючы таленту і настойлівасці ў 2003 годзе Наталля паступіла ў Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт на спецыяльнасць "прадметны дызайн".

На прафесійную думку Эдуарда Мацюшонка, Наталля – вельмі таленавітая мастачка. Яна выдатна валодае колерам. Ды і прафесія дызайнера мэблі – нішто іншае, як праяўленне мастацкага таленту.

– Мастацтва – гэта стан жыцця, – пераканаы настаўнік. – Калі чалавек – мастак, то ён і выкладаць, і канструяваць, і нават плот фарбаваць будзе выключна як мастак, – пераканаы настаўнік Наталлі.

### Не згубіць сябе ў мегаполісе

На сустрэчу з былой вучаніцай Эдуард Мацюшонак прывёў сённяшніх наведнікаў студыі. Затрымліваючыся ля кожнай карціны, тлумачыў дзецям асаблівасці стварэння і ўспрымання жывапісу.

– У сваёй карціне мастак павінны нешта недагаварваць, – казаў выхаванцам Эдуард Мацюшонак. – Тады глядач становіцца суаўтарам мастака.

– Дызайнер – гэта мая праца, а жывапіс – мая мара, – падзялілася Наталля. – Жывучы ў Санкт-Пецярбургу, я назіраю, як у вялікім горадзе, нібы ў мясарубцы, людзі губляць свае мары і губляюць сябе.

Наталля ж не толькі не згубіла сябе, уласны талент і мары. Яна не забылася родную мову. Імпрэзу мастачка вяла па-беларуску. І прачытала для гледачоў уласны верш, напісаны на роднай мове.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Пра што раскажуць помнікі ў Маркаўскім сельсавеце

МАЛАДЗЕЧНА

**18 красавіка – Міжнародны дзень аховы помнікаў.**

У нас, на тэрыторыі Маркаўскага сельсавета, помнікі даглядае савет ветэранаў, сельскі Савет пад кіраўніцтвам старшыні **Івана Мацевіча** і звычайныя вяскоўцы.

У вёсках Маркаўскага сельсавета асабліва старанна працуюць па добраўпарадкаванні помнікаў перад Днём Перамогі. Да працы далучаецца мясцовы Дом культуры, вучні і настаўнікі Маркаўскай сярэдняй школы, ветэранская арганізацыя.

Ёй кіруе **Іван Нарэйка**. Ён шмат гадоў працаваў у гаспадарках рэгіёна, быў дэпутатам раённых Саветаў, мае ўзнагароды. Толькі ў Маркаве галоўным аграномам адпрацаваў 21 год.

Год таму Іван Васільевіч з энтузіязмам узяўся за кіраўніцтва арганізацыяй ветэранаў.

Усяго ў Маркаўскім сельсавеце шэсць помнікаў і месцаў вайсковага пахавання. У цэнтры сельсавета стаіць помнік з пералічэннем жыхароў Маркава і блізкіх вёсак, якія загінулі ў часы вайны. Штогадова тут збіраюцца людзі на Дзень Перамогі.

Шмат мясцін у нашым сельсавеце звязаныя з Вялікай Айчыннай вайной. У вёсцы Клочкава ёсць помнік невядомаму салдату, які загінуў у час вызвалення Маладзечаншчыны ў 1944 годзе.

А на магілу да рускага салдата **ЯгораМатылёва**, якога пахавалі на тэрыторыі сельсавета таксама ў 1944, не так даўно прыязджалі сваякі з Расіі.

У Юр'еўскім лесе, на Сакалінай гары, недалёка ад вёскі Ленкаўшчына, месцілася база партызанскага атрада.

А ў самой Ленкаўшчыне помнік паведамляе пра тое, што тут пахаваны воін **Аляксей Нікіцін**. Ён загінуў 6 ліпеня 1944 года ў час вызвалення Маладзечаншчыны ад фашыстаў.

**Мікалай КОТ,**
**жыхар вёскі Трапалава.**




Фота забяспечана Мікалаем КАТОМ.

Мікалай Кот ля помніка ў Маркаве.

● НЕВЯДОМАЯ ГІСТОРЫЯ МАЙГО КРАЮ

# Пляшчанская трагедыя

*Заканчэнне. Пачатак у №№1, 2, 10, 11, 12, 13, 14*

**Каб больш падрабязна даведацца пра трагедыю 70-гадовай даўніны, якая здарылася ў Пляшчанах на Вілейшчыне, я завітаў да карэнных жыхароў гэтай вёскі Аляксандара (1932 г.н.) і Аляксандры (Булах) (1929 г.н.) Доўнараў.**

Расповеды Зінаіды Раковіч (Карповіч) пра дзейнасць партызанскай брыгады “Штурмавая” дапаўняе былы партызан брыгады імя Фрунзе **Аляксандар Кажура**.

Аляксандру Іванавічу было 16 год, калі ён прыйшоў у партызаны да фрунзенцаў. Брыгада дыслакавалася ў вярсце на поўдзень ад вёскі Навасёлкі (ад Хаценчыцаў сем вёрст). У ёй знаходзіўся штаб брыгады і асобы аддзел. Малалетняга Шурку пакінулі пры штабе. Вазіў падрыўнікоў на чыгунку ды сакрэтныя пакеты па іншых партызанскіх атрадах і брыгадах. Часта бываў і ў “Штурмавой”.

На думку Аляксандра Іванавіча, і не толькі яго, гэта брыгада мела авантурны і анархісцкі характар з зусім нізкай вайсковай дысцыплінай. Яе камандзір Барыс Лунін сам злоўжываў спіртным і не забараняў сваім падначаленым. Вызначаўся разгульнымі паводзінамі адносна жанчын, празмернай самастойнасцю і “адсябячынай” пры вядзенні барацьбы з ворагам, лічыў нормай рабаванне насельніцтва нават не на сваёй падкантрольнай тэрыторыі – усё гэта ўскладняла ўзаемадзеянні пры правядзенні буйнамаштабных баявых аперацый.

Да прыкладу, ад сумеснага разгрому фашысцкага гарнізона ў Хаценчыцах лунінцы адмовіліся. Але дзякуючы дасканала распрацаванаму плану ваенных дзеянняў, фрунзенцам хапіла трох гадзін, каб цалкам завалодаць гарнізонам з мінімальнымі стратамі. Былі знішчаныя пяць кулямётных пунктаў (у тым ліку два кулямётныя дзоты) і мінамётны разлік. Было забіта 30 паліцэйскіх і трое немцаў. Гарнізон фашысты больш не аднавілі.

Неяк Аляксандара Іванавіча камандаванне адправіла з пакетам да лунінцаў. Той праехаў спакойна праз усю падкантрольную “Штурмавой” тэрыторыю аж да самога яе штаба і нідзе не заўважыў ніякіх пастоў. І толькі на зваротным шляху, у адным месцы з чатырох, усё ж спынілі для праверкі. “Адмоўныя паводзіны лунінцаў у вачах насельніцтва кампраметавалі і нашу брыгаду, – кажа Аляксандар Іванавіч. – А яшчэ за імі вадзіліся празмерныя прыпіскі. Заб’юць дзе-небудзь немца ці паліцэйскага, а два прыпішуць. Кажаш іншы раз, а я ж бачыў, што там адзін ляжаў забіты. А яны ў адказ: значыць, двух ужо ваўкі з’елі. Ну, і што ім можна было сказаць на гэта? Вось так і ваявалі!

Пасля вайны шмат хто з жыхароў, у тым ліку дзеці загінулых Карповічаў, а таксама родныя расстралянай сям’і Жукоўскага Змітрака Жоглы, спрабавалі адшукаць забойцаў сваіх родных, каб прыцягнуць іх да адказнасці. Але першая спроба не прынесла станоўчых вынікаў.

Праз пэўны час пасля звароту пацярпелыя атрымалі адказ, у якім паведамлялася, што для ўзбуджэння крымінальнай справы супраць герояў вайны пададзеных матэрыялаў недастаткова. Ды і ўвогуле, была вайна, а на вайне заўжды ёсць ахвяры.

## Герояў-пераможцаў у СССР не судзілі. Але толькі не ў гэтым выпадку

Пасля смерці Сталіна і Берыі настырнасць і паслядоўнасць жыхароў у зваротах прымусіла ваенную пракуратуру БССР распачаць крымінальныя справы супраць былога камандзіра партызанскай брыгады “Штурмавая” Барыса Луніна і начальніка асобага аддзела гэтай брыгады Івана Беліка. Нашы героі-садысты адразу пасля вызвалення атрымалі не толькі высокія дзяржаўныя ўзнагароды, але і высокія дзяржаўныя пасады.

Камандзір партызанскай брыгады “Штурмавая” Герой Савецкага Саюза Барыс Лунін, хоць і не меў вышэйшай адукацыі, атрымаў пасаду намесніка міністра аўтамабільнага транспарту БССР. Але за сістэматычныя запоі быў вызвалены з пасады. Пасля чаго з’ехаў на Кубань. Там у 1955 годзе быў арыштаваны следчым Беларускай ваеннай пракуратуры. У гэтым жа годзе быў арыштаваны і яго намеснік начальнік асобага аддзела Іван Белік, які, не меўшы адукацыі, працаваў інжынерам на “Інтэгралe” ў Мінску.



Министерство Обороны
Союза ССР

ВОЙСКОВАЯ ЧАСТЬ
№ 38729

13 февраля 1958 г.
№ 82406

Исп. вх. 56/ж

СЕКРЕТНО
экз. № 1

ЗАМЕСТИТЕЛЮ НАЧАЛЬНИКА ОТДЕЛА ПО ПЕРСОНАЛЬНОМУ УЧЕТУ ПОТЕРЬ СЕРЖАНТОВ И СОЛДАТ СОВЕТСКОЙ АРМИИ

ПОЛКОВНИКУ тов. КОЗЬМИНУ

На Ваш № 8050 от 25.01.58 г.

Сообщаю, что 18.04.42 нами была переброшена в район г. Минска разведгруппа, возглавляемая младшим сержантом БАРСУКОВСКИМ Леонидом Александровичем, с задачей разведки войск противника в Минске и его окрестностях.

В декабре 1942 г. в связи с создавшейся в Минске обстановкой, во избежание ареста и провала, БАРСУКОВСКИЙ Л.А. и другие разведчики были вынуждены уйти в лес в партизанский отряд "Димы", где 14.01.43 г. расстреляны командиром партизанской бригады "Штурмовая" Луниным и начальником отдела бригады БЕЛИКОМ как агенты Гестапо, о чем тогда же было сообщено нам.

В настоящее время Главной Военной прокуратурой установлено /письмо № 3с - 45915-55 от 4.09.57 г./, что БАРСУКОВСКИЙ Л.С. и другие расстрелянные с ним разведчики, являлись патриотами родины и честно выполняли данное им задание.

За необоснованный и незаконный расстрел группы разведчиков Лунин и Белик 22.07.57 г. Военным трибуналом осуждены.

На основании вышеизложенного, нами принимаются необходимые меры, вытекающие из реабилитации погибших разведчиков, по восстановлению материальных и иных прав их родственникам.

НАЧАЛЬНИК УПРАВЛЕНИЯ В/Ч 38729
ГЕНЕРАЛ-МАЙОР /СМОЛИКОВ/

т. Семенову
17.2.58 г.

21.2.58 г.

Скан забяспечаны Аляксандрам РАТКЕВІЧАМ.

За злачынствы, здзейсненыя падчас вайны супраць мірнага насельніцтва, гвалт, здзекі, рабаванне, а таксама за забойства 36 мірных грамадзян, у тым ліку малалетніх, немаўлят і васьмі савецкіх выведвальнікаў, Лунін і Белік былі асуджаныя Ваенным трыбуналам на сем год кожны. Абодва былі пазбаўленыя ўсіх Дзяржаўных узнагарод, а Лунін і звання Героя Савецкага Саюза.

## Прыезд Беліка ў Пляшчаны ў 1976 годзе

Белік пасля вызвалення вярнуўся назад на “Інтэграл”. Жанаты быў на **Ніне Змяеўскай** з Жабічаў. Пазнаёміўся ён з ёй як там партызаніў. Аднойчы ў 1976 годзе Белік з жонкай прыехалі ў Пляшчаны на пахаванне яе дзядзькі, Юзі Карповіча. Пра прыезд партызана-ката імгненна даведаліся жыхары не толькі Пляшчанаў, але і навакольных вёсак. Навіну гэту тады распаўсюдзіў Міхаіл Іванавіч Жогла, стрыечны брат Ніны Жукоўскай, чыя сям’я была расстраляная Белікам.

Міхаіл Іванавіч на той час працаваў старшынёй Хаценчыцкага сельсавета і таксама вельмі хацеў зазірнуць у вочы таму забойцу яго родных. Ад самасуду Беліка выратавала “Волга”, на якой прыехаў. Натоўп людзей перакрыў вясковую вуліцу з двух бакоў і чакаў, калі пачнецца працэс пахавання, каб вычапіць і расквітацца з Белікам за ўсе яго злачынствы і забойствы іх родных. Бо лічылі, што прысуд яму быў моцна заніжаны.

Агрэсіўнасць грамадзян з кожнай хвілінай нарастала. Белік з двара назіраў за натоўпамі і перабіраў усе варыянты прарыву з заблакаванага падворка. Дапамагла ваенная партызанская кемлівасць. За падворкам была пасеяная калгасная канюшына, але не ўбраная. Вось на тое поле ён і звярнуў увагу.

Як толькі сабраліся выносіць памерлага, Белік, не завастраючы на сабе ўвагі, сеў у сваю “Волгу” і пачаў яе разварочваць, быццам для выезду на вуліцу. Людзі расступіліся, каб даць магчымасць Беліку выехаць з двара. Ну а што здарылася далей, кажа Міхаіл Іванавіч, то ўсё трэба было бачыць.

Белік на поўным газе рвануў машыну не ў перад, а назад і на поўным ходзе праз падворак, збіўшы прасла плота, даўся наўцёкі па канюшынным полі, пакідаючы за сабой толькі вялізны слуп пылу. Ад нечаканасці людскі натоўп стаяў моўчкі ў разгубленасці. А пасля, забыўшыся нават пра пакойніка ў хаце, жыхары паднялі рогат на ўсю вёску. Уцёкі ката былі людской перамогай над Белікам ды і ўвогуле над несправядлівасцю.

Пасля таго выпадку ўсе ўздыхнулі з палёгкай і засталіся задаволеныя, што абышлося без кровапраліцця. Больш Белік у Пляшчанах не з’яўляўся. Для яго далейшы лёс склаўся не зусім удала, бо сышоў з жыцця не ў пару і не звычайным шляхам.

## Выпіска з рашэння суда

“На основании изложенного, руководствуясь ст.ст. 319 и 320 УПК БССР, приговорил Лунина Бориса Николаевича и Белика Ивана Никитовича на основании ст. 180 п. "б" УК БССР с применением ст. 51 УК БССР лишить свободы в ИТЛ сроком на 6 лет каждого, с поражением в правах по п.п. "а", "б" и "в" ст. 34 УК БССР сроком на 3 года каждого.

Их же на основании ст. 214 ч. II УК БССР с применением ст. 51 УК БССР лишить свободы в ИТЛ сроком на 7 лет каждого, с поражением в правах по п.п. "а", "б" и "в" ст. 34 УК БССР сроком на 3 года каждого.

Окончательную меру наказания по совокупности совершенных преступлений Лунину и Белику определить на основании ст. 214 ч. II УК БССР с применением ст. 51 УК БССР — семь (7) лет каждого, с поражением в правах по п.п. "а", "б" и "в" ст. 34 УК БССР сроком на три (3) года каждого.

Срок отбывания наказания с зачетом предварительного до суда заключения исчислять Лунину с 7 марта 1957 года, Белику – с 27 октября 1956 года.

Меру пресечения до вступления приговора в законную силу осужденным Лунину и Белику оставить ранее избранную, т.е. содержание под стражей.

21 сентября 1957 года Военная коллегия Верховного суда СССР отклонила кассационную жалобу Лунина на приговор. 26 ноября 1957 года Президиум Верховного совета СССР лишил его звания Героя Советского Союза, орденов и медалей”.

## ЗАГІНУЛЫЯ ПЛЯШЧАНЦЫ

01. Булах Фёдар Іванавіч, 1898 г.н.
02. Булах Аляксанар Фёдаравіч, 1918 г.н.
03. Булах Надзея Іосіфаўна, 1920 г.н.
04. ? Кацярына (з Мінска), 1918 г.н.
05. Булах Уладзімір Паўлавіч, 1925 г.н.
06. Высоцкі Мікалай Фаміч,
07. Гарбач Гаўрыла, 1896 г.н.
08. Гарбач Алена Сцяпанаўна, 1907 г.н.
09. Гарбач Аляксандра Гаўрылаўна,1927 г.н.
10. Дзік Яўген Людвігавіч, 1912 г.н.
11. Дзік Іван Яўгенавіч, 1935 г.н.
12. Жогла Іван Іванавіч, 1912 г.н.
13. Жукоўскі Дзмітры, 1876 г.н.
14. Жукоўская Варвара, 1885 г.н.
15. Жукоўская Серафіма Дзмітрыеўна, 1916 г.н.
16. Жукоўскі Леанід Дзмітрыевіч, 1920 г.н.
17. Жукоўская Марыя Дзмітрыеўна, 1923 г.н.
18. Жукоўская Алімпа, 1933 г.н.
19. Карповіч Іван Сямёнавіч, 1900 г.н.
20. Карповіч Марыя Васілеўна, 1907 г.н.
21. Лабецкі Іосіф Антонавіч, 1896 г.н.
22. Лабецкі Іван Іосіфавіч, 1918 г.н.
23. Шарамет Пётра Марцінавіч, 1883 г.н.
24. Шарамет Міхаіл Пятровіч, 1929 г.н.
25. Шарамет Алена Пятроўна, 1924 г.н.

**Алесь РАТКЕВІЧ,**
**Чысць.**

# Аўтар скульптуры маці ў Вілейцы: "Ап... пяшчоты і ласкі ў вобразе маці будзе...

ВІЛЕЙКА

**Скульптура маці, якую плануюць устанавіць да ліпеня ў Вілейцы, выклікала буру абмеркаванняў у сацсетках.**

Некаторыя каментатары ўзрушаныя тым, што "выраз твару маці вельмі заклапочаны і мае пячатку безвыходнасці... Дзе шчасце, ласка, клопат? Ці гэта адлюстраванне нашых рэаліяў?"

Многія ўбачылі ў скульптуры мужчынскія рысы твару, пытаюцца пра тое, ці не твар гэта самога аўтара.

Засталіся пытанні і па прычосцы: "А я бачу твар мужчыны з прылепленымі ззаду валасамі. Чаму б плаўна не паказаць прычоску, як у дзяўчынкі?"

Каментатары адзначаюць, што скульптура падобная на пасляваенны помнік, пытаюцца, дзе бацька, ці не рэклама гэта няпоўнай сям'і?

Мы паразмаўлялі з аўтарам **Аляксандрам Шомавым**, каб даведацца, якой задумвалася скульптура, якой яе бачыць аўтар.

### У эскізе немагчыма паказаць усе рысы твару, настрой

Як адзначыў творца, у яго чацвёра дзяцей, таму тэма вельмі блізкая.

– Непаразуменні ўзніклі праз тое, што віляйчане бачылі першапачатковы варыянт, эскіз, – тлумачыць Аляксандр Шомаў. – У маленькім памеры проста немагчыма паказаць усе рысы твару, настрой. Гэта эскіз, і разглядаць яго трэба як кампазіцыю.

Аўтар упэўнівае, калі скульптура будзе рабіцца ў рэальным памеры, аптымізу, пяшчоты, ласкі ў вобразе маці будзе дастаткова.

– У скульптуры двое дзяцей – аднаго жанчына трымае на руцэ, на другое таксама не забываецца, надзяляе ўвагай, трымае рукой, – апісвае кампазіцыю аўтар. – Канешне, вобраз маці можна стварыць і з адным дзіцем, аднак задума была ў тым, каб паказаць разнаполых дзяцей – хлопчыка і дзяўчынку. Можна стварыць цэлы дзіцячы лагер, аднак ці варта гэта? Узніклі б праблемы з успрыняццем кампазіцыі. Тым больш, тры постаці гэта сімвалічна – тройца.

### Навошта бацька? Дзеці па сабе не нараджаюцца

Аўтар упэўнівае, што бацьку не варта было паказваць у скульптуры, бо само сабой разумецца, што самі па сабе дзеці не нараджаюцца. У прыклад прыводзіць тое, што ў многіх мастакоў, скульптараў ёсць вобраз мадонны з дзіцем. Пры гэтым ніхто не задае пытанне, дзе бацька, усе разумеюць значэнне. Тое ж самае тычыцца і гэтага выпадку.

Аляксандру Шомаву будуць дапамагаць стварыць скульптуру жонка і дзеці. У такім выпадку рухі цела, пастава атрымаюцца больш натуральнымі.

– Што датычыцца пытання, што ў вобразе маці хацеў паказаць сябе, гэта для мяне навіна, – здзіўлены творца. – Калі б у мяне і быў такі намер, лепш бы адлюстраваў сваю жонку, яе рысы ў скульптуры. У першую чаргу імкнуўся і далей буду кіравацца прынцыпам – паказаць зборны вобраз мацярынства.

Аўтар адзначае, што вобраз маці будзе яшчэ дапрацоўвацца.

– Мне самому хочацца, каб скульптура падабалася людзям, была блізкая, прыцягвала сваёй энергетыкай, – падводзіць выснову Аляксандр Шомаў. – Толькі ў такім выпадку я змагу з гонарам і радасцю сказаць, што з'яўляюся аўтарам. Мяркую, што любому творцу важна, каб яго работу ацанілі і прынялі гледачы.

Цяпер для работы над скульптурай вызваляецца месца, падрыхтоўваецца гліна, мантуецца каркас. Хутка творца прыступіць да работы.

Нагадаем, што ў конкурсе для стварэння скульптуры маці ўдзельнічалі пяць аўтараў. У выніку перамог творца Аляксандр Шомаў. Эксперты падкрэслілі цэласнасць яго кампазіцыі, дыялог маці і дзіцяці, агляд з усіх бакоў, дынамічнасць. У вышыню скульптура будзе 2,2 метра.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**
**Фота забяспечанае аддзелам архітэктуры Вілейскага райвыканкама.**



Мінскі абласны мастацкі экспертны савет па манументальным і манументальна-дакументальным мастацтве адзначыў, што скульптура Аляксандра Шомава цікавая з усіх бакоў: лаканічная спіна, нахіл галавы – як зварот да дзіцяці, нага – як падтрымка для немаўляці. Работа добра ўпісваецца ў навакольнае асяроддзе і найлепш адлюстроўвае сутнасць мацярынства.

## Эксперты пра недахопы конкурсных работ



Сярод пераваг эскіза скульптуры спецыялісты вылучылі тое, што яна добра глядзіцца на фоне царквы. Аднак ніз вельмі абцяжарвае кампазіцыю і разрознены з верхам. Не прапрацаваная задняя частка, а разведзеныя калені негатыўна ўплываюць на эстэтычнае ўспрыняцце.



Скульптура Валціса Барканса недарэчная для гарадскога парку.



У вобразе маці Генадзя Буралкіна няма цэласнасці кампазіцыі, яна не адпавядае заданню.

## …тымізму, …е дастаткова”



Фота katyleliehr.com.

Каб паказаць, што скульптары з розных краін свету па-рознаму паказвалі мацярынства, мы зрабілі фотападборку на сайце RH.BY. Адна са скульптур са спіса належыць Луізе Буржуа і называецца “Мама, альбо Маман”. Маман уяўляе сабой бронзава-стальную павучыху вышынёй дзевяць метраў, якая нясе мех з 20-цю мармуровымі яйкамі. Устаноўленая ў Нацыянальнай галерэі Канады. Работа над скульптурай была завершаная ў 1999 годзе. У 2003 годзе арыгінал набылі ўлады горада Атавы за тры мільёны долараў. Па словах скульптара, бронзавая павучыха – вобраз маці. Скульптура арыгінальным спосабам адлюстроўвае мацярынства. Копіі агромністага павука можна сустрэць больш чым у дзесяці краінах свету. У Эрмітажы, у Санкт-Пецярбургу, знаходзіцца адна са “сваячак” Маман Луізы Буржуа.



Выява маці ў скульптуры Юрыя Анушкі сагнутая, скамечаная, залішне дынамічная, а гэтага хацелася б пазбегнуць. Яшчэ геаметрычная фігура шара адцягвае ўвагу ад асноўнага вобраза.

# 70 гадоў сустракае на пасадзе эканаміста

МАЛАДЗЕЧНА

**“У яе ж “Эксэль” у палёце, і гэта амаль у 70 гадоў!”, – распавялі нам пра Галіну Васільеўну Свірыдзенку, эканаміста “Райаграсэрвісу”.**



Фота Зоі ХРУЦКАЙ.

Галіна Свірыдзенка.

Пасля выхаду на пенсію жанчына працавала па кантракце, а ў 2011 кантракт не працягнулі. Дзве дачкі Галіны Васільеўны маюць свае жыллё, таму адной жанчыне дома было сумна. Думала ўладкавацца прыбіральшчыцай ці вахцёрам. Але неўзабаве ёй прапанавалі вярнуцца ў “Райаграсэрвіс” і падмяніць новага эканаміста, якая пайшла ў дэкрэтны адпачынак.

Спачатку нават адмаўлялася, казала, што ўсё ўжо забылася. Але намесніца дырэктара па эканоміцы **Таццяна Голік** угаварыла хаця б паспрабаваць. І зноў праца пайшла як па маслe. Цяпер жанчына плануе дачакацца калегу з дэкрэтнага і ўжо сапраўды пайсці адпачываць.

Галіна Васільеўна працавала галоўным эканамістам у сельгасхіміі, а пасля арганізацыю аб’ядналі ў “Райаграсэрвіс”, і яна стала вядучым эканамістам.

Але не тое, каб гэта прафесія была дзіцячай марай Галіны. З сяброўкамі-аднавяскоўкамі з Малога Запруддзя на Валожыншчыне проста разам вырашылі паступаць на бухгалтараў у Ашмянскі тэхнікум. Дзяўчат усіх разам падвезлі на кані і пакінулі вуліца.

Прыгадвае, што магла б пасля паступіць у інстытут, але ўсё сапсавала тройка па хіміі.

– Ну, ніяк я хімію не магла зразумець, не давалася і ўсё тут, – прыгадвае Галіна Васільеўна. Калі б мела чацвёрку, то прынялі б без экзаменаў, а здаваць экзамен я пабаялася. Зрэшты, ніхто да маёй адукацыі ніколі не прыдзіраўся.

### Як асвойвалі камп’ютар

У пачатку 2000-х у маладзечанскіх арганізацыях паступова пачалі далучаць да працы камп’ютары. Гэта цяпер Галіна Васільеўна з камп’ютарам на “ты”, а першы час пабойвалася гэтай, як тады здавалася, “страшнай машыны”. Аднак разабрацца дапамог добры настаўнік – Таццяна Георгіеўна.

– Спачатку казала, што не асвоіць яго ніколі, – прыгадвае Таццяна Голік. – А самі падумайце, нас жа ніхто не вучыў, ніякіх курсаў не даваў, дагэтуль ляжаў адзін калькулятар, і ўсё. Паціху даводзілася разбірацца самім. Пасля дадалося працы, і камп’ютар вельмі добра дапамог. Дзякуючы “Эксэлю” не трэба было ўсё лічыць самім. Паступова і Галіна Васільеўна ўсяму навучылася. У бухгалтэрыі яшчэ ўручную працавалі, а яна ўжо лятала.

Дома Галіна камп’ютар і не ўключае – за цэлы дзень вочы і так стамляюцца. Яна даглядае агарод, а на выхадных бавіць час з унукамі. Дзве дачкі, Света і Таня, трое ўнукаў – галоўнае багацце для яе.

### Часам такое прыдумае!

Пакуль мы разважалі з Галінай Васільеўнай, калегі ўсё не стамляліся расказваць пра яе. Напрыклад, яна такая гаспадыня, што ўсе просяць падзяліцца рэцэптамі:

– На Вялікдзень у яе будуць самыя смачныя пірагі, сама напячэ, а мы ж з магазіна прынясём. На Дзень маці ладзілі конкурс страў, такую ўжо смакату прынесла! Актыўнасці могуць пазайздросціць многія маладыя – і на канцэрты заўсёды сходзіць, і ў паездкі. І за парадамі ўсе да яе ходзяць. Захаваць амаль у 70 год і прывабнасць, і склад розуму – гэта ўзор для ўсіх нас. Яна ж не проста лічыць, а прагназуе, і за кожнай лічбай бачыць, як і што найлепш прымяніць на практыцы. Часам такое выкіне, такое прыдумае, што ніякі камп’ютар не дагоніць.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Маладзечанцы на сцэне “Верхняга Горада”

МАЛАДЗЕЧНА

**Упершыню за 30 гадоў існавання гімназіі-каледжа мастацтваў горада Маладзечна творчыя калектывы ўстановы выступілі ў мінскай канцэртнай зале “Верхні Горад” 9 красавіка.**

Перад пачаткам свята была арганізаваная мастацкая выстава педагогаў гімназіі-каледжа. Акцёрскім майстэрствам уразілі навучэнцы тэатральнага аддзялення, якія прынялі ўдзел у інсталяцыі “Жывыя скульптуры”. Ахвотныя маглі зрабіць з імі фота на памяць.

Сваім выступленнем гледачоў парадавалі духавы і інструментальныя аркестры, ансамблі скрыпачоў, цымбалістаў, акардэаністаў, танцавальныя калектывы і вакалісты.

– Я рада, што мы не стаім на месцы і пачалі даваць канцэрты не толькі ў Маладзечне, – падзялілася ўражаннямі **Дыяна Курловіч**, навучэнка 11 класа гімназіі-каледжа мастацтваў.

Спецыяльным госцем канцэрта стаў **Аляксандр Салаўёў**, саліст заслужанага калектыву “Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Рэспублікі Беларусь” пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, лаўрэат рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, уладальнік Гран-пры конкурсу маладых выканаўцаў на Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі “Маладзечна”, дыпламант Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні “Славянскі базар” у Віцебску.

– Я ганаруся, што рабіў свае першыя крокі на сцэне гімназіі-каледжа мастацтваў і рад зноў прасняваць для любімай школы, – адзначыў Аляксандр.

Таксама выступіла выпускніца 2016 года **Дыяна Бажко**, удзельніца Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі “Маладзечна-2016”, якая звязала сваё жыццё з мастацтвам і паступіла ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў.

Сярод ганаровых гасцей былі паэт, песеннік і кампазітар, кіраўнік абласнога фестывалю “Крылы анёла” **Вячаслаў Бабкоў**, начальніца аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама **Соф’я Філістовіч**, загадчыца раённага вучэбна-метадычнага кабінета **Аксана Семеж**.

**Валерыя ЛУЖЫНСКАЯ, навучэнка гімназіі-каледжа мастацтваў Маладзечна.**

НАВІНЫ

## "Смаргонь" стартавала з перамогі

СМАРГОНЬ

ФК "Смаргонь" у чэмпіянаце Беларусі па футболе ў першай лізе стартаваў 8 красавіка. Каманда гуляла ў гасцях са сталічным "Энергетыкам-БДУ".

Смаргонцы першымі забілі: на 15-й хвіліне вызначыўся **Уладзімір Казко**. Праз чатырнаццаць хвілін яшчэ адзін гол забіў **Віталь Ганіч** – з пенальці. Неўзабаве гаспадары адзін мяч адквіталі. Больш забітых галоў у матчы не было: перамога гасцей 2:1.

Галоўны трэнер "Смаргоні" **Аляксей Дварэцкі** пракаментаваў пераможны матч першага тура:

– Пачатак чэмпіянату, яно заўсёды хвалююча, заўсёды трывожна. Усе каманды роўныя на дадзеным этапе. Таму цяжкая гульня, – прыводзіць яго словы афіцыйны сайт клуба. – З першых хвілін гулялі па ветры, нешта стварылі. Забілі два галы, была ініцыятыва і перавага. Потым недарэчная памылка абаронцаў, і ўсё, мы аселі. У другім тайме, вядома, сапернік пераважаў па ўсім. Задача была – проста ўтрымаць пераможны лік. Таму рады перамозе, яна вельмі патрэбная.

Цяпер пачаўся чэмпіянат і ідзе набор ачкоў. Калі ў перадсезонку нам важны быў змест гульні, то цяпер, паўтаруся, нам важны набор ачкоў.

Наступны матч "Смаргонь" зноў правядзе ў гасцях: 15 красавіка супраць "Баранавічаў".

## "Смаргонь" сустрэлася з заўзятарамі

СМАРГОНЬ

А напярэдадні, 7 красавіка, у раённым Цэнтры культуры ФК "Смаргонь" правёў сустрэчу з заўзятарамі. Яны маглі задаць пытанні футбалістам, трэнерскаму штабу і кіраўніцтву раёна. На сустрэчы былі агучаны задачы на гэты сезон: выступіць не горш, чым летась, заняць пятае-шостае месца.

Вяла сустрэчу ўладальніца намінацыі "Міс інтэрнэт-сімпатыя" і "Міс фота" конкурсу прыгажосці "Міс Смаргонь-2017" **Ганна Шапёткіна**. Яе выбралі тварам футбольнага клуба.

– Такая сустрэча стала ўжо традыцыйнай. І прайшла, як заўсёды, – расказаў заўзятар "Смаргоні" **Арцём Войтка**.

– Як лічыце, тыя задачы, што ставяць "Смаргоні" на сезон, камандзе па сілах, ці могуць яшчэ лепш выступіць?

– Мяркуючы па гульні з "Энергетыкам-БДУ", могуць заняць і вышэйшае месца. Каманда маладая, у хлопцаў гарацць вочы. Галоўнае, каб жаданне змагацца і перамагаць было на працягу ўсяго чэмпіянату, а не ў асобных гульнях.

## Вілейскія міліцыянеры – другія ў вобласці ў міні-футболе

ВІЛЕЙКА

У Чэрвені прайшоў чэмпіянат упраўлення ўнутраных спраў Мінскага аблвыканкама па міні-футболе. За чэмпіёнскі тытул змагаліся каманды Мінскага і Барысаўскага РУУС, Вілейскага, Слуцкага, Стаўбцоўскага і Чэрвеньскага РАУС. Да гэтага яны перамаглі на занальных этапах чэмпіянату.

У фінале сустрэліся каманды з Барысава і Вілейкі. Калі барысаўчане з самага пачатку глядзеліся лепш за ўсіх, былі згуляныя і паказвалі сапраўды цікавую гульню, то каманда Вілейскага РАУС дайшла да фіналу ў большай ступені дзякуючы сваім маральна-валявым якасцям, згуртаванасці і волі да перамогі, паведамляе УУС Мінаблвыканкама.

Першы тайм каманды скончылі ў нічыю, з лікам 3:3. Але ў другім тайме барысаўчане не пакінулі сваім сапернікам ніводнага шанцу, забіўшы ім яшчэ чатыры галы.

Вілейчане занялі другое месца.

## Лепшыя сустрэнуцца ў паўфіналах

МЯДЗЕЛ

У паўфіналах чэмпіянату Мядзельскага раёна па міні-футболе згуляць "РКП Нарач" і каманда аддзела адукацыі, спорту і турызму, "Спадарожнік" і "ІП Мядзел". Пра гэта паведаміла суполка "ЗЛЖ Мядзельшчыны" "Укантакце". Гульні пройдуць 15 красавіка.

Гэтыя каманды занялі месца ў першай чацвёрцы на групавым этапе. Іншыя каманды занялі такія месцы: на пятым – "Юнацтва", на шостым – СЛВПТВ, на сёмым – "Сілавік", на восьмым – "Юніян Нарач".

Аддзел інфармацыі.

# Скейтар са сталіцы дарма прыехаў:

## спаборніцтвы ў вілейскім скейт-парку перанеслі

ВІЛЕЙКА

**8 красавіка. 12:40. Праз дваццаць хвілін павінны адбыцца спаборніцтвы лепшых скейтараў Беларусі ў вілейскім скейт-парку.**


Іван Дзідэнка ў чаканні спаборніцтваў, якіх не адбылося.

Пра гэта паведамілі арганізатары праз суполкі ў сацыяльных сетках і мясцовыя сродкі масавай інфармацыі.

Падыходзячы да пляцоўкі, чакала пачуць воклічы ўдзельнікаў і грохат скейтаў, але...

Сустрэла тут дзвюх бабуль з унукамі і адзінокага хлопца са скейтам.

### Сталічны скейтар: віляйчанам пашанцавала са скейт-паркам

Скейтара з Мінска завуць **Іван Дзідэнка**. Хлопец вучыцца ў восьмым класе адной са сталічных школ. Раніцай ён са сталіцы на маршрутцы "Мінск-Вілейка" спецыяльна прыехаў на спаборніцтвы.

Кажа, даведаўся пра іх з сацыяльных сетак. Летась у Вілейці ўжо двойчы ладзілі спаборніцтвы скейтараў. І абодва разы Іван прыязджаў сюды з Мінска.

> **– Вілейскай моладзі вельмі пашанцавала, што тут, у невялікім горадзе, пабудавалі скейт-парк, – кажа хлопец.**

Цяпер, па словах скейтара, хлопцам і дзяўчатам не трэба катацца па дарозе, раздражняючы прахожых і кіроўцаў.

Калі ў 2014 годзе Іван толькі пачынаў катацца, у Мінску цяжка было знайсці добрую скейт-пляцоўку. Мусілі "абкатваць" сцежкі-дарожкі, а часам нават і помнікі ў горадзе. За гэта пільныя прахожыя маглі выклікаць міліцыю.

Іван лічыць вілейскую пляцоўку даволі добрай. Тут можна катацца, не баючыся траўмаў. За некалькі год хлопец пабачыў розныя пляцоўкі. Кажа, былі нават з дрэнным асфальтам і такія, дзе падчас язды скейтар абавязкова ў нешта "ўедзе".

### Скейт – дорага і небяспечна. Але лепш, чым камп'ютар

Асабліва Івану спадабаліся скейт-паркі за мяжой. У Германіі, па словах хлопца, пляцоўкі для скейтараў робяць з паліраванага бетону, таму катацца там – адно задавальненне.

Скейт, па словах хлопца, не вельмі танны від спорту. Іван пачынаў катацца на недарагой дошцы. А калі дасягнуў пэўных поспехаў, набыў лепшую. Прыкладна за 60 еўра.

Здараліся і траўмы. Не раз Іван падаў са скейта, шкодзіў пальцы на руках. Тады з нецярпеннем чакаў, калі загояцца раны, каб зноў устаць на скейт.

Аднак нягледзячы на ўсе нязручнасці, бацькі задаволеныя, што сын не сядзіць за камп'ютарам, як большасць аднагодкаў.

– Камп'ютар патрэбны для таго, каб даведацца з сацыяльных сетак, дзе і калі адбудуцца чарговыя спаборніцтвы, – падзяліўся Іван.

Ад хлопца я даведалася, што катанне на скейце мае два накірункі: парк і стрыт. Стрыт – гэта катанне проста па вуліцах, а парк – арганізаваныя выступленні скейтараў на спецыяльных пляцоўках. Такіх, як вілейская.

Ваня займаецца і адным, і другім накірункам. Мае некалькі першых месцаў у сталічных конкурсах. Часам бывае на спаборніцтвах за мяжой.


Яны разлічвалі на майстар-клас.

### На спаборніцтвы прыехаў дарма

Пасля нашай размовы Іван крыху абкатаў сваю дошку на вілейскай пляцоўцы, здзіўляючы трукамі нешматлікіх віляйчан, якія прыйшлі паглядзець на спаборніцтвы.

Аднак было ўжо 13:00, а спаборніцтвы не пачыналіся. Іван патэлефанаваў арганізатарам.

Тыя паведамілі, што спаборніцтвы перанеслі на 21 красавіка. Прычынай стала дрэннае надвор'е. На маё пытанне, чаму так недарэчна атрымалася, Іван паціснуў плячыма:

– Не ведаю. Калі апошні раз звязваўся, казалі, што ўсе едуць.

– Куды цяпер? – пытаюся ў Івана.

– На вакзал, чакаць маршрутку, – адказвае хлопец. – Толькі вось прыедзе яна праз дзве гадзіны.

Мы дамовіліся сустрэцца з Іванам Дзідэнкам на вілейскай скейт-пляцоўцы 21 красавіка.

Хлопец абяцаў прыехаць. Кажа, не пакрыўдзіўся на арганізатараў.

> **А вось вілейскія бабулі з унукамі пакрыўдзіліся. Вельмі хацела дзятва паглядзець на спаборніцтвы.**

Некаторыя дзеці нават узялі з сабой скейты, бо пасля конкурсу арганізатары абяцалі майстар-клас.

Фота аўтара.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Аўтар цытаты “Падарожнічай толькі з тым, каго любіш”.
3. Загляне … і ў наша ваконца.
5. Плоская закрытая скрыначка, у якую змяшчаецца магнітная стужка.
6. У Японіі – прафесійная спявачка і танцоўшчыца ў чайных дамах.
7. Чалавек, які лоўка вядзе справы, не грэбуючы ніякімі сродкамі для дасягнення мэты.
8. Прадстаўнік дэкласавых слаёў насельніцтва.
13. Паміж баронам і графам.
14. Сталіца Партугаліі.
15. Птушка з вельмі доўгім языком.
16. З-за рассейвання блакітных хваляў ад сонца яно мае менавіта такі колер.
18. Настольнік.
20. Прозвішча аўтара будучай скульптуры маці ў Вілейцы.
21. Прадмет адзення для ног.
22. Джон Ленан у адным з інтэрв’ю выказаў меркаванне, якое выклікала скандал: нібыта хутка яно знікне. Пасля гэтай заявы давялося адкласці запланаваныя гастролі ў ЗША, баючыся тэрарыстычных актаў.
23. Дзіцяня жабы.
30. Цішка … – псеўданім Змiцера Жылуновіча.
31. Вокіс магнію ў выглядзе белага парашку, які выкарыстоўваюць у медыцыне і прамасловасці.
32. Самакіравальная арганізацыя жыхароў.
34. Адзіная жывёла, якой даступны ўваход у мячэць.
36. Краіна, у якой размешчанае самае вялікае тэрмальнае возера Еўропы, якое месціцца ў кратары патухшага вулкана.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Дзякуючы яму наш мозг здольны на творчасць, рабіць выбар, атрымліваць веды, быць чалавекам у гуманістычным сэнсе.
4. Гэта з-за яго вурчыць у страўніку.
7. Лічыцца самым старажытным горадам.
9. Мазь, якую атрымліваюць з нафты.
10. Геаметрычная фігура ў чатырохмернай прасторы.
11. Контур.
12. Цяпер гэта адно з мястэчак у нашым рэгіёне, а ў 1385 годзе гэта была арэна падзей міжнароднай важнасці.
13. З верша Барадуліна: “Калі / Па веснавой зямлі / Прайшоўся дожджык босы, /… ткаць / Распачалі / Вясёлыя нябёсы”.
17. Паводле апошніх падлікаў, у Беларусі іх 512.
19. Пачатак.
24. Павадыр статка.
25. Цэнтр творчасці дзяцей і моладзі ў Маладзечне і астранамічная з’ява.
26. З-за таго, што мы яе губляем, становіцца так лёгка ўнутры, калі гушкаемся на арэлях.
27. Драпежная кошка беларускіх лясоў.
28. Крапаснoе ваеннае ўмацаванне пяцівугольнай формы.
29. Велічыня, якая застаецца нязменнай пры любых пераўтварэннях.
30. Крык гусей.
31. Прадпрыемства, заснаванае на падзеле працы.
33. Класічны аўтар, які натхніў акцёраў на выкананне разняволенай танцавальнай пастаноўкі. Маладзечанкі глядзелі гэты спектакль 3 красавіка.
35. Пасяджэнне, дзе замест справы займаюцца пустымі размовамі.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №14. Па гарызанталі.** 1. Перамożаш. 2. Планктон. 4. Парытэт. 5. Ягня. 7. Пламбір. 8. Пафас. 13. Шпег. 14. Шчарбіна. 15. Стрыптыз. 16. Трава. 17. Чакан. 22. Дурань. 23. Цэтлік. 24. Струмень. 26. Рай. 27. Яслі. 28. Эўфемізм. 30. Харон. 31. Цнатлівы. 33. Альберт. 34. Аканне.
**Па вертыкалі.** 3. Хартыя. 5. Яхідна. 6. Чынш. 7. Парфіра. 9. Эфір. 10. Чарнакніжнік. 11. Чапурыцца. 12. Цячэнне. 18. Схватка. 19. Цыбаты. 20. Кабул. 21. Сузор’е. 25. Урэмія. 29. Сабрат. 32. Малако.

## ГАРАСКОП 14-20 КРАСАВІКА



**АВЕН.** Дні будуць няпростыя, але вы з усім справіцеся самі. Лянота, хоць і завалодае вамі, але вы пераможаце яе. А ўвогуле, калі вам нічога не хочацца рабіць, калі апатыя, то гэта арганізм запатрабаваў перадышкі.

**ЦЯЛЕЦ.** Вы так шмат працуеце, што вам цяпер не да рамантыкі, адносіны з блізкімі людзьмі адсунутыя на другі план, а ўсе спробы дастукацца да вас ці каб неяк адцягнуць увагу, будуць вамі праігнараваныя.

**БЛІЗНЯТЫ.** Калі вы штосьці задумалі, то не адступайце і не мяняйце прынятыя рашэнні. Старайцеся шмат часу праводзіць у коле сям’і, і тады ўсе праблемы адступяць самі ці будуць вырашаныя вамі.

**РАК.** Не прысвячайце сябе цалкам рабоце, бо так вы забудзеце пра ўсё астатняе, што не лепшым чынам адаб’ецца на адносінах з сябрамі і ў сям’і.

**ЛЕЎ.** Адбудзецца нейкая важная сустрэча, якая будзе мець сур’ёзнае значэнне для вас і вашай будучыні. Палепшыцца і ваш матэрыяльны стан, калі не ў грашовай форме, то ў выглядзе павышэння па службе. Адзінае, чаго трэба пазбягаць, дык гэта праяўлення тэрору ў адносінах да блізкіх людзей.

**ДЗЕВА.** Вы актыўныя, усё ў вас у руках будзе проста кіпець. Нічога не адкладвайце ў далёкую скрыню. Калі што вырашылі зрабіць, то рабіце цяпер. Лёс вам спрыяе, і ўсё складзецца ўдачна.

**ШАЛІ.** Наступае перыяд плаўных змяненняў у вашым жыцці, змяненняў, якія прывядуць вас да лепшага. Усе складанасці будуць паступова вырашацца, а становішча спраў паляпшацца. Вы адчуеце сябе значным чалавекам, вакол вас з’явяцца знаёмыя, якія даўно не давалі пра сябе знаць.

**СКАРПІЁН.** Вам трэба трымаць эмоцыі пад кантролем, бо цяпер вас будуць выпрабоўваць на трываласць. Унутры вас будуць кіпець страсці, якія пастараюцца вырвацца вонкі і выліцца на любога, хто патрапіць пад руку. Стрымлівайце сябе ў любых сітуацыях, каб не нашкодзіць сабе.

**СТРАЛЕЦ.** Якімі б справамі вы ні займаліся, якія б праблемы ні вырашалі, заўсёды рабіце так, каб сіл заставалася і на асабістае жыццё.

**КАЗЯРОГ.** Цяпер вы можаце рэалізаваць усё, што даўно планавалі, але не рашаліся зрабіць раней. Вы будзеце мэтанакіраваныя, настойлівыя, а гэта дазволіць вам лёгка і ўпэўнена рухацца па жыцці, вырашаючы любыя пытанні.

**ВАДАЛЕЙ.** Гэтыя дні для вас – перыяд гармоніі і ўраўнаважанасці літаральна ва ўсіх сферах. Больш за ўсё яны спрыяльныя для тых, у каго ўжо ёсць другая палавінка, бо адносіны будуць развівацца упэўнена, больш умацуюцца і дасягнуць новых вышынь.

**РЫБЫ.** Усю стомленасць як рукой зніме, гэтаму пасадзейнічае добрая кампанія. Спрыяльны час для правядзення вечарынак ці проста сустрэч з сябрамі, тым больш што велікодныя святы. Не выключаныя і рамантычныя сустрэчы. Толькі старайцеся не пераядаць і ўстрымлівайцеся ад моцных напояў.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 8 | 2 | 3 | 9 | 7 | 1 | | |
| | | 6 | | | | | | 3 |
| 7 | | | | | | 8 | | |
| | 6 | | 4 | | | | | |
| | 2 | 7 | 9 | | 8 | 4 | 3 | |
| | | | | | 1 | | 7 | |
| | | 8 | | | | | | 5 |
| 6 | | | | | | 3 | | |
| | | 5 | 2 | 1 | 6 | 9 | 8 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | 8 | 2 | 3 | 9 | 7 | 1 | 6 | 4 |
| 9 | 1 | 6 | 8 | 2 | 4 | 7 | 5 | 3 |
| 7 | 3 | 4 | 1 | 6 | 5 | 8 | 2 | 9 |
| 8 | 6 | 3 | 4 | 7 | 2 | 5 | 9 | 1 |
| 1 | 2 | 7 | 9 | 5 | 8 | 4 | 3 | 6 |
| 4 | 5 | 9 | 6 | 3 | 1 | 2 | 7 | 8 |
| 2 | 9 | 8 | 7 | 4 | 3 | 6 | 1 | 5 |
| 6 | 7 | 1 | 5 | 8 | 9 | 3 | 4 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 2 | 1 | 6 | 9 | 8 | 7 |

